2 верасня 2016 | № 33 (498)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Фэст на Крапіўне: чвэрць стагоддзя з перапынкамі** стар. 11



# Як Ярмошына Шчоткіну пакрыўдзіла

## Міжволі ці не, але старшыня ЦВК абразіла не толькі ўсіх жанчын агулам, аднак і некаторых у прыватнасці



Сяргей ПУЛЬША

Некаторыя эксперты лічаць, што медыя занадта шмат увагі надаюць ЦВК, якая павінна быць «тэхнічным арганізатарам» выбараў. Але як прайсці міма яскравых выказванняў галоўнага тэхнічнага арганізатара — Лідзіі Ярмошынай?

Днямі старшыня ЦВК падзялілася сваімі думкамі з чытачамі вузкапрофільнага выдання «Dipservice» — часопіса Міністэрства замежных спраў, прызначанага для замежных амбасад. Паводле яе словаў, палітыка — не жаночая справа.

«Жанчынам гэта (палітыка) нецікава. Уявіце сабе дзвюх сябровак, якія сядзяць пры каве і абмяркоўваюць, хто стане прэзідэнтам ЗША. Ды ім гэта ў галаву не прыйдзе! Жанчын цікавіць канкрэтыка. (...) Вось выйсці замуж — гэта вынік. Пашыць сукенку, спячы торцік — таксама вынік. (...) Жанчына па сваёй натуры апалітычная. Дарэчы, прыстойны чалавек заўжды апалітычны», — разважае Лідзія Міхайлаўна.

Навошта яна займае палітычную пасаду, калі жанчыне там не месца? Каб яна сышла ў адстаўку — на гэтым уся размова б скончылася.

Але ўсё ж такі цікава, як старшыня ЦВК, ці не другі чалавек па значнасці ў краіне падчас перадвыбарчай кампаніі, усprымае значную частку электарату. Паводле яе, жанчына — гэта істота, не здольная да крытычнага і абстрактнага мыслення. Яе цікавіць толькі тое, што можна памацаць рукамі. Муж, сукенка, торцік, боршч — вышэй розум жанчыны не ўздымаецца. Карацей, як кажа парадаксальная ўкраінская прымаўка: «Жінка — не чоловік». Па-ўкраінску «чоловік» — гэта мужчына. Для беларусаў гэтая фраза зразумелая, але ўспрымаецца інакш.

Ці можам мы ўявіць дзвюх сябровак, якія абмяркоўваюць прэзідэнцкія выбары ў ЗША? Насуперак меркаванню Лідзіі Міхайлаўны — колькі заўгодна!

Вось проста зараз я магу назваць трох сяброваk, якіх не тое што цікавяць — непакояць вынікі выбараў прэзідэнта ЗША. Гэта кандыдатка ў тыя прэзідэнты Хілары Клінтан, кіраўніца Літвы Даля Грыбаўскайтэ і канцлер ФРГ Ангела Меркель. Да іх далучыцца Джыл Стэйн, кандыдатка на амерыканскага гаранта ад «зялёных». Не могуць не хваляваць амерыканскія выбары балгарку Ірыну Бокаву і новазеландку Хелен Кларк, якія цяпер змагаюцца за пасаду генсека ААН. Пра амерыканскія выбары не думае хіба што прэзідэнтка Бразіліі Дзілма Русеф — у яе свае праблемы.

Увогуле, пасля таго, як на пасаду кіраўніка Беларусі балатавалася Таццяна Караткевіч, усе сэксісцкія забабоны наконт жанчыны ў палітыцы лепш схаваць падалей. Калі ў кіраўніцы ЦВК добра з памяццю, яна павінна была б згадаць, што «намалявалі» Караткевіч 4,4%. У той час як бліжэйшаму яе канкурэнту Сяргею Гайдукевічу напісалі 3,3%.

Праўда, усе ведаюць, як у Беларусі лічацца (а дакладней — не лічацца) бюлетэні. Таму звернемся да неафіцыйных крыніц. Паводле дадзеных Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), у 2010-м за Саннікава прагаласавала 7%, за Статкевіча — 1,9%, за Някляева — 9,7%. У 2015-м Гайдукевічу аддалі галасы 5,2% выбаршчыкаў. Караткевіч, згодна таму ж НІСЭПД, атрымала 15,7%. То бок, жанчына абагнала палітыкаў-мужчын.




**Месца жанчыны ў палітыцы ў кансерватыўнай Беларусі вельмі недаацэненае**

Міжволі ці не старшыня ЦВК абразіла не толькі ўсіх жанчын агулам, але і некаторых у прыватнасці. Што пра Лідзію Міхайлаўну павінна падумаць міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Акіндзінаўна Шчоткіна? Яна ж была кіраўніком штабу Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах–2015. А кіруемы ёю Беларускі саюз жанчын, па маніторынгах праваабаронцаў, на цяперашніх выбарах уваходзіць у пяцёрку лідараў па колькасці сябраў у выбарчых камісіях усіх узроўняў. Дый сама Шчоткіна збіраецца стаць сенатарам.

Простая статыстыка сведчыць, што месца жанчыны ў выбарах нават у кансерватыўнай патэрналісцкай Беларусі вельмі недаацэненае.

На месцы жанчын, я б на Лідзію Міхайлаўну пакрыўдзіўся. Так, чыста па-жаночаму. І адразу б паламаў любімую цацку Ярмошынай — выбарчую сістэму. Калі зараз (яшчэ не позна) усе жанчыны напішуць заявы пра выхад са складу выбарчых камісій — няма каму будзе праводзіць выбары. І што тады зробіць кіраўніца ЦВК? Ёй застанецца толькі стаць на калені і прасіць прабачэння ў тых, каго яна абразіла.

Так што «жаночую тэму» старшыні ЦВК увогуле лепш не чапаць. Адзін раз яна ўжоператваралася ў інтэрнэт-мем са сваім баршчом. Зараз наступіла яшчэ раз на тыя ж граблі.

Дарэчы, наконт «прыстойны чалавек заўжды апалітычны». Гэта такі «сеанс чорнай магіі з яе выкрыццём»? Калі Лідзія Міхайлаўна загразла ў палітыцы па самыя вушы, гэта значыць?..

# Ёсць пытанні — чакай ахову

Марат ГАРАВЫ

**У Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь 30 жніўня ў адказ на пытанні грамадзян выклікалі ахову.**

Пра гэта НЧ паведаміла актывістка Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры, праваабаронца Тамара Сяргей.

Яна нагадала, што 24 верасня 2015 года на сталічнай плошчы Свабоды больш за 15 пенсіянераў — актывістаў ініцыятывы з розных рэгіёнаў краіны — правялі несанкцыянаваны пікет дзеля прыцягнення ўвагі грамадства і дзяржавы да праблемы адпісак на звароты ў органы суду і пракуратуры, а таксама да бяздзейнасці кіраўніка дзяржавы па абароне канстытуцыйных правоў грамадзян. Пенсіянеры трымалі ў руках Канстытуцыю і расцяжкі наступнага зместу: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак» і «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!».

Пазней 12 грамадскіх актывістаў абскардзілі ў судзе Маскоўскага раёна сталіцы дзеянні Мінскага гарвыканкаму, які не дазволіў правядзенне акцыі. «Суддзя Алена Рудніцкая не толькі вынесла неабгрунтаванае і незаконнае рашэнне, але і абавязала кожнага з заяўнікаў заплаціць за падачу скаргі дзяржпошліну ў памеры адной базавай велічыні. Такім чынам, замест дзяржпошліны памерам у адну базавую велічыню (на той момант 180 тысяч рублёў), як таго патрабуе заканадаўства, суд запатрабаваў яшчэ 11 базавых. Свае рашэнне суддзя Алена Рудніцкая аніяк не абгрунтавала нормай заканадаўства, а значыць, здзейсніла самавольства», — падкрэсліла Тамара Сяргей.

Пазіцыю Алены Рудніцкай падтрымалі Мінскі гарадскі суд на чале са старшынёй Паўлам Каршуновічам і намеснік старшыні Вярхоўнага суду Жанна Шкурдзюк. «Да яе тры актывісты ініцыятывы прыйшлі на прыём 30 жніўня, каб высветліць, якой нормай закону кіруюцца суддзі, якія самавольна прызначаюць памеры дзяржпошліны. Аднак замест адказу на нашае пытанне суддзя Вярхоўнага суду Жанна Шкурдзюк выклікала ахову», — сказала праваабаронца.

Яна паведаміла, што па гэтай праблеме актывісты ініцыятывы будуць дамагацца прыёму ў старшыні Вярхоўнага суду Валянціна Сукалы.

# Баран у Трасцянцы: працяг гісторыі

**Другі тыдзень мясцовыя службы не могуць разабрацца, што рабіць з ахвярай рытуальнага абраду, праведзенага пад Крыжом памяці ва ўрочышчы Благоўшчына (Трасцянец).**

Нягледзячы на тое, што на месца забойства барана яшчэ 23 жніўня прыехалі міліцыянты ды запэўнілі грамадскіх актывістаў, што ўсё прыбяруць экалагічныя службы, актывістам дагэтуль даводзіцца самастойна шукаць адказных за ўтылізацыю мёртвай жывёлы.

«На наступны дзень пасля здарэння распухлы ад спёкі баран яшчэ ляжаў на сваім месцы. Тады я сама звязалася з Тацянай Жычко, намесніцай начальніка аддзела дзяржаўнага кантролю за аховай і выкарыстаннем земляў, лясоў, жывёльнага і расліннага свету. Падалося, мы паразумеліся… Аднак праз дзень мы прыехалі ў Благоўшчыну і ўбачылі, што замест таго, каб утылізаваць жывёлу ў адпаведнасці з санітарнымі нормамі (закапаць у бліжэйшым ад Мінска скотамагільніку альбо вырыць роў ды спаліць), выканаўцы згрэблі экскаватарам барана ўнутр вала і проста засыпалі нейкім будаўнічым смеццем, зрабіўшы пасярэдзіне Дарогі смерці (такую назву дарога мае паводле дзяржаўнага праекта, які цяпер распрацоўваецца ў Трасцянцы) адначасова і смятніцу, і скотамагільнік. Паўторна пазванілі Тацяне Жычко, але яна сказала, што яны займаюцца дзікімі жывёламі, а баран — свойская жывёла, таму гэта ў кампетэнцыі мясцовых уладаў», — распавяла Ганна Шапуцька.

Цяпер грамадскія актывісты падрыхтавалі і адправілі лісты ў Адміністрацыю Заводскага раёна і ў Генеральную пракуратуру з патрабаваннем вырашыць сітуацыю.

Аўтары звароту абураюцца, што пры наяўнасці вялікай колькасці разнастайных службаў і чыноўнікаў, ніхто з іх не ўстане вырашыць пытанне. Актывісты заўважаюць, што нова створаны сметнік, унутры якога ляжыць забіты баран, мусіць быць тэрмінова ліквідаваны не толькі таму, што на месцы расстрэлаў тысяч людзей не месца сметніку, але і з меркаванняў бяспекі мясцовых жыхароў, якія могуць стаць ахвярай якой-небудзь хваробы, справакаванай шматдзённым ляжаннем мёртвай жывёлы на сонцы.

# Чаго чакаць ад візіту ў Пакістан?

Генадзь КЕСНЕР

**Кіраўнік Беларусі ў кастрычніку плануе з'ездзіць у Ісламабад, дзе сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Пакістана Навазам Шарыфам. Якая мэта гэтага візіту і чаго можна ад яго чакаць?**

Палітолаг-міжнароднік Андрэй Фёдараў мяркуе, што галоўная мэта паездкі — інвестыцыі Пакістана ў Беларусь.

— Хутчэй, гэта «жывыя» грошы, паколькі цяжка казаць, што гэта могуць быць за інвестыцыі. Яшчэ адзін сэнс паездкі — прадэманстраваць, што нас прымаюць у свеце. Пакістан з'яўляецца даволі вялікай краінай, прычым ядзернаю, — адзначае аналітык. — Мне, дарэчы, згадваецца скандальчык тут, у нас, калі мы Пакістану гадоў дзесяць-дванаццаць таму паставілі партыю трактароў «Беларус» — штук так каля дзесяці тысяч. Потым высветлілася, што гэтыя трактары былі прададзеныя туды ледзь не ніжэй за сабекошт. Я моцна сумняваюся, што Пакістан можа стаць для нас моцным дзелавым партнёрам. А ў палітычным плане — цяпер, калі ў нас няма моцных «контраў» з Захадам, гэты візіт нам не асабліва і патрэбны.

Камунікацыі з Пакістанам даволі складаныя нават чыста тэхнічна, працягвае суразмоўца.

— Вазіць тавары па акіяне альбо праз Таджыкістан, Гімалаі? Малаэфектыўна. А ў палітычным плане Пакістану і так хапае тых, хто яго падтрымлівае. Так што наўрад ці будзе сур'ёзны вынік і эфект ад таго візіту, — лічыць Андрэй Фёдараў.

Паводле яго слоў, Пакістан мае вагу ў свеце як ядзерная дзяржава, і гэты статус яна сама ўжо прызнае.

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі нагадвае, што паміж кіраўніцтвам Пакістана і Беларусі наладжаныя кантакты на самым высокім узроўні.

— У Беларусь прыязджаў прэм'ер-міністр Пакістана, які з'яўляецца першай асобай у гэтай краіне, і Лукашэнка наведваў Пакістан. Ісламабад, са свайго боку, зацікаўлены не толькі ў беларускай сельскагаспадарчай тэхніцы, але і ў ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве, — адзначае эксперт. — Я б не выключаў, што Пакістану будзе прапанавана прадукцыя беларускай «абаронкі». Калі меркаваць па апошніх заявах, Беларусь вельмі добра выглядае на рынку ўзбраенняў і жадае замацавацца там сваімі «Паланэзамі» (рэактыўнымі сістэмамі залпавага агню. — заўв. Г. К.).

Аднак, дадае эксперт, з гэтым могуць узнікнуць складанасці.

— Складанасць з Ісламабадам палягае ў тым, што трэба ўлічваць стасункі Пакістана не толькі з Кітаем (а Лукашэнка прапаноўваў стварыць «трохкутнік» Беларусі з Пакістанам і Кітаем), але і з Індыяй. З гэтай краінай, як падаецца, у нас стасункі больш сціплыя. А ўвогуле Лукашэнка жадае звярнуць увагу на «далёкую дугу» знешняй палітыкі Беларусі. У беларускага кіраўніка ёсць улюбёная формула — закрытых тэмаў для нас няма. Што ён мае на ўвазе, мы зможам даведацца па выніках візіту. Мемарандумаў можа быць багата, а вось рэальных пагадненняў, як паказвае практыка, істотна менш, — падсумаваў Раман Якаўлеўскі.

# На Магілёўшчыне зачынілі 16 беларускамоўных школ

**Закрыццё вясковых школ называюць аптымізацыяй. Ліквідаваныя навучальныя ўстановы былі беларускамоўнымі. Гэты аспект у каментарах дзяржаўных службоўцаў не закранаецца.**

Начальнік упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкаму Уладзімір Рыжкоў лічыць, што ў малакамплектных класах вучыць школьнікаў неэфектыўна з гледзішча засваення вучэбнага матэрыялу. Калі ў кабінеце, кажа ён, двое-трое вучняў, то няма духу спаборніцтва, няма ў дзяцей навыкаў адаптацыі ў вялікім калектыве.

Вёска Сялец, што ў Горацкім раёне, сёлета не пачуе школьнага званка. Мясцовую дзятву перавялі вучыцца ў Аўсянку, за 15 кіламетраў. Бацькі школьнікаў, з кім удалося пагутарыць, казалі, што чакаюць 1 верасня з няпэўнасцю, бо дзеці выпраўляюцца ў чужую школу ды чужы калектыў.

«Наша школа добрая, праўда, дзяцей было малавата ў ёй, але настаўнікі былі харошыя. Нашы дзеці добра вучыліся і ў акадэмію нават паступалі. А цяпер школу зачыняюць», — казала адна з вясковак журналісту.

«Быў у нас сход, прыязджала раённае начальства. Людзі рыхтаваліся да закрыцця школы. Ды што яны маглі зрабіць, каб яе абараніць? Відаць жа, існуе ўказ прэзідэнта: калі мала дзяцей у школах, дык іх зачыняюць. Можа, вы што зробіце, каб не зачынялі нашай школы? Будынак жа добры. Як у Аўсянцы нашы дзеці будуць без нас, во гэтая думка — галоўнае. А як узімку дзяцей будуць вазіць, калі завее дарогу? Пра ўсё цяпер думаеш, не толькі як падрыхтаваць дзіця да школы», — казала суразмоўніца.

Дагледжаная двухпавярховая школа — пасярод вёскі. Ля брамкі на камяні пазначаная дата яе адкрыцця: «1974». Па словах дырэктаркі зачыненай ужо школы, настаўнікі без працы не засталіся. Усіх уладкавалі, запэўніла яна. Дзяцей жа аўтобусамі будуць вазіць у Аўсянку. Сялецкая школа была з беларускай мовай навучання. І ў Аўсянцы такая самая.

«Вёска жыла са школы. Аўтобус з Горак часцей прыходзіў. А цяпер, як зачынілі школу, усё зменіцца. Будынак загубяць, бо што ў ім можна размясціць? Разаб'юць яго. Ці першая школа ў нас, якую зачынілі ў раёне? У суседніх вёсках будынкі разбілі ўсе. Каму яны нада без дзяцей? Няхай бы школа была ў нас, але дзяцей для яе ж няма, таму не адстаім мы школы. Правіцелі лічаць, што ў Аўсянцы школа лепшая», — кажа адзін з вяскоўцаў.

«Я, у прынцыпе, не супраць аўсянкаўскай школы. Але нам незразумела, як больш за сорак дзяцей будуць у яе вазіць. Адным рэйсам не выйдзе. Стоячы дзецям ехаць у аўтобусе нельга. Таму пэўнасці ў нас няма, як усё гэта будзе», — сказала адна з маці.

«У сялецкай школе ў класе было чатыры вучні. Гэта можна лічыць індывідуальным навучаннем, — працягвала суразмоўніца. — Я не кажу, што мой сын настолькі ўжо выдатнік, але ён на свае сямёркі і васьмёркі ведаў матэрыял. Настаўніца сваіх вучняў пеставала, любіла. А як будзе ў аўсянкаўскай школе? Тое, што тузаюць дзяцей са школы ў школу, — гэта кепска. Як дзеці прыстасуюцца да новых умоваў? Усё гэта насцярожвае нас, бацькоў».

Бацькі не акцэнтавалі ўвагі на мове навучання. Некаторыя заўважалі, што настаўнікі вучаць дзяцей на рускай мове, асабліва матэматычным дысцыплінам, хаця падручнікі беларускамоўныя. Суразмоўцы казалі, што для іх неістотна, на якой мове вучаць у школе.

«Вясковым настаўнікам складана трымацца беларускасці, бо праграмы ды каляндарна-тэматычнае планаванне, якое распрацоўваецца Міністэрствам адукацыі, выдаюцца на рускай мове. І ім даводзіцца гэтыя матэрыялы перакладаць», — кажа педагог з дваццацігадовым стажам Людміла Старавойтава. Яна вучыць дзяцей у вёсцы Рэчыца, што ў Чэрыкаўскім раёне.

«Ёсць бацькі, якія не бачаць перспектыўу для далейшага навучання свайго дзіцяці, калі яго будуць вучыць на беларускай мове, і шукаюць рускамоўныя школы, — дадае настаўніца. — Я сутыкалася з такімі».

**Паводле svaboda.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як выжыць настаўніку ды вучням?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Напачатку верасня беларусы падзяляюцца на дзве часткі. Адны думаюць, як выправіць дзіця ў школу, садок альбо ВНУ, другія шчыра радуюцца, што іх гэтыя праблемы не тычацца. Але найбольш вартыя спачування настаўнікі: ім і сваіх дзяцей трэба выправіць, і чужых прыняць.**

Як ні дзіўна, гэтым разам для ўлады 1 верасня не павінна было быць нечаканым. Яшчэ напачатку жніўня Аляксандр Рыгоравіч правёў нараду па павышэнні значнасці настаўнікаў у жыцці краіны. Там казалася, што настаўнік — прафесія палітычная, што ў іх павінны быць варты статус і заробкі — інакш дзяржава згубіць лепшыя педагагічныя кадры. «Сітуацыя з матэрыяльным забеспячэннем настаўніцтва ўжо нясцерпная, таму давайце настаўніка нагрузім настолькі, наколькі ён павінен быць загружаны, але будзем плаціць належны заробак», — сказаў Лукашэнка.

Каб выканаць даручэнні кіраўніка дзяржавы, у адпаведных чыноўнікаў быў месяц. Але наша чыноўніцтва парадаксальнае, яно абвяргае ўсе законы прыроды, паводзінаў, а іншым разам — і фізікі з матэматыкай. Напрыклад, агульнавядомы псіхалагічны пастулат кажа: лепей за ўсё запамінаюцца апошнія фразы. Аднак адказныя за адукацыю запомнілі з прамовы Лукашэнкі не «плаціць належны заробак», а «нагрузіць настаўніка».

Якім чынам прапануюць палепшыць дабрабыт педагогаў? Намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава лічыць, што адным са спосабаў фінансавай падтрымкі настаўнікаў можа стаць аказанне пазабюджэтных паслуг. І прывяла ў прыклад адну з мінскіх школ, дзе, як высветлілася, ІП арандуе памяшканне і рыхтуе дзяцей да школы. «Так і настаўнік можа арганізаваць гэтую ж працу і дадаткова зарабіць, як гэта адбываецца ў іншых школах», — зазначыла Качанава.

Гэта мяне заўсёды здзіўляла. Скажам, грамадзяне ўсё лета гарбацяцца на вёсцы, а потым дзяржава вырашчаныя імі гуркі ды бульбу запісвае сабе ў плюс як «створаныя ў прыватным сектары», — і чыноўнікі рапартуюць пра «харчовую бяспеку». Тое ж самае і зараз з настаўнікамі: яны будуць круціцца і рэпетытарстваваць у нешматлікія вольныя ад працы гадзіны, а Качанава пасля дасць справаздачу: «Падвысіўся ўзровень дабрабыту і заробкаў педагогаў». Але пры чым тут дзяржава?

Дый што замінае настаўніку проста зараз зарэгістравацца тым жа ІП-рэпетытарам і «аказваць дадатковыя паслугі»? Нішто, акрамя асабістай адказнасці педагога, бо гэта дрэнна адаб'ецца на асноўнай працы. Настаўнік з хранічным недасыпам — гэта палова настаўніка. А Качанава прапануе менавіта гэта.

І зноў жа пытанне — пры чым тут дзяржава? Падаецца, толькі пры тым, што рэпетытар-настаўнік будзе плаціць дадатковыя падаткі са сваёй дзейнасці. А дадатковы заробак — гэта ягоны заробак. Ён яго зарабіў. І Качанава тут — ні пры чым.

Іншы спосаб стымулявання настаўнікаў — звыклы, за кошт бацькоў навучэнцаў, — «вынайшаў» міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў. У гэтым годзе некаторыя ВНУ на 100–150 дэнамінаваных рублёў павялічылі кошт навучання для першакурснікаў. У сярэднім год вучобы на каштуе 1900 «новымі». Альбо каля 1000 долараў.

Выраслі выдаткі на падрыхтоўку студэнтаў, кажа Жураўкоў. «Мы разлічылі рэальныя затраты, якія нясуць універсітэты на падрыхтоўку студэнта. Рэнтабельнасць у ВНУ мінімальная, — сказаў міністр адукацыі. — Але ўсе павінны разумець, што плата за навучанне не можа быць ніжэй выдаткаў ВНУ».

**Беларусь прынялі ў Балонскі працэс «авансам» . Для таго, каб стаць паўнавартасным яго ўдзельнікам, трэба выканаць «дарожную мапу»**

Выбачайце, але «рэнтабельнасці» дзяржаўных ВНУ не павінна быць увогуле! Бо, апроч платы за навучанне, усе грамадзяне краіны плацяць падаткі ў бюджэт, з якога фінансуецца адукацыя ў тым ліку. Зразумела, калі ВНУ прыватная, і дзяржпадтрымкі не атрымлівае, — гэта адна справа. Іншая — калі гэта дзяржаўная ўстанова. Падвышаць у ёй кошт навучання можна толькі тады, калі яна дае новыя веды і новыя магчымасці. У нас жа з гэтым — поўны швах.

Год таму Беларусь «авансам» прынялі ў Балонскі працэс. Для таго, каб стаць паўнавартасным яго ўдзельнікам, каб нашы дыпломы прызнаваліся за мяжой, і каб узровень адукацыі адпавядаў сусветнаму, трэба выканаць «дарожную мапу», якую прапанаваў Балонскі камітэт. А вось гэтага Жураўкоў рабіць адмаўляецца.

Прынамсі, ён заявіў, што не бачыць неабходнасці ў стварэнні ў Беларусі незалежнага агенцтва для кантролю якасці вышэйшай адукацыі (што з'яўляецца адной з умоў гэтай «дарожнай карты»). Па ягоных словах, ёсць Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў (РІКВ), на які плануецца ўскласці функцыю ацэнкі ведаў студэнтаў. «Мы гэтым пытаннем займаемся, але займаемся ў адпаведнасці з нашымі індывідуальнымі нацыянальнымі асаблівасцямі сістэмы, — сказаў міністр. — Ідзе працоўны працэс, ніякай спешкі няма».

Яшчэ ёсць дэпартамент ацэнкі якасці ведаў пры Міністэрстве адукацыі. «Гэта афіцыйная структура, якая неабходна, каб хаця б пацвярджаць дыпломы, атэстаты, выдаваць ліцэнзіі. Гэта павінна рабіць структура дзяржаўная», — лічыць Жураўкоў.

Па-першае, дзяржаўныя структуры цяжка назваць незалежнымі. Па-другое, невыкананне ўмоў Балонскага працэсу прывядзе да таго, што праз пару гадоў нас адтуль папрусць. Зноў пытанне — навошта нам тыя «рэнтабельныя ВНУ», дыпломы якіх не прызнаюцца ў свеце? За што мы ўвогуле плацім двойчы — праз падаткі і «за навучанне»?

Па-трэцяе, на думку сябра Грамадскага Балонскага камітэта, прафесара, заснавальніка ЕГУ Уладзіміра Дунаева, узровень ведаў беларускіх студэнтаў пакідае жадаць лепшага. «Беларуская выпускнікі ВНУ — самыя некампетэнтны ў рэгіёне», — сказаў ён у інтэрв'ю Onliner.by. Ну і за што падвышаць аплату?

Ці не лепей выправіцца ў той жа вільнюскі ЕГУ, дзе за тую ж тысячу долараў на год атрымаеш еўрапейскі дыплом? Альбо ва Украіну, дзе за параўнальны кошт можна атрымаць адукацыю ў вядучых ВНУ краіны.

Такія думкі паўстаюць асабліва тады, калі даведваешся пра беларускія заробкі. Партал probusiness.by падлічыў, што за месяц у доларавым эквіваленце сярэдні заробак па краіне павялічыўся на $2,4 і дасягнуў $373,6. Аднак планку ў $300 у ліпені не змагла пераадолець палова рэгіёнаў. І толькі ў двух раёнах краіны і ў Жодзіна заробак вырас на велічыню, большую за ўзровень інфляцыі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхась Валынец



**Кандыдат у дэпутаты па Маладзечанскай акрузе падчас свайго звароту па тэлебачанні выступіў з прапановай пачаць у краіне «беларускі мір».**

Прынамсі, Валынец патрабуе ўзнавіць Маладзечанскую вобласць. «Што агульнага паміж Маладзечнам, Вілейкай і Смаргонню? Гэта тыя гарады, дзе ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў 1994 года перамог нацыянальна арыентаваны палітык Зянон Пазняк. Гэта тыя гарады, якія некалі ўваходзілі ў склад Маладзечанскай вобласці. Таму ў выпадку майго абрання дэпутатам, буду падымаць пытанне аб узнаўленні Маладзечанскай вобласці ў межах пачатку 1960 года, ад Літвы да Заслаўя, ад Латвіі і Заходняй Дзвіны да Ліды і Навагрудка, аб аднаўленні Маладзечанскай вобласці з асаблівым нацыянальным статусам з адной дзяржаўнай беларускай мовай. Руская мова павінна мець статус рэгіянальнай мовы», — заявіў кандыдат.

Апроч таго Валынец прапануе стварыць вакол Маладзечна свабодную эканамічную зону. Да «Маладзечанскай Народнай Рэспублікі», справа, дзякуй Богу, пакуль не дайшла.

## Мечыслаў Гой



**Мэр Гродна, у межах распрацоўкі канцэпцыі веларуху, вырашыў на сабе паспытаць праблемы раварыстаў. І праехаў на ровары па горадзе.**

Праўда, старшыня Гродзенскага гарвыканкама прызнаўся, што для яго гэты транспарт не новы, і паездкі на ім (праўда, за горадам), адбываюцца рэгулярна. «Мэта гэтай паездкі ў тым, каб на ўласным досведзе пабачыць праблемы, з якімі сутыкаюцца раварысты. Іх не відаць з акна аўтамабіля», — адзначыў чыноўнік.

Разам з ім па горадзе пракаціліся кіраўнікамі гарадскіх арганізацый, прадстаўнікі ДАІ і актывісты веларуху. «Дзесьці панізіць бардзюр, дзесьці ўсталяваць знак — гэта незатратныя працэдуры, але яны могуць палегчыць жыццё веласіпедыстаў», — сказаў па выніках вандроўкі Мечыслаў Гой. Ён таксама распавёў, што Гродна сумесна з замежнымі партнёрамі рыхтуе некалькі праектаў па паляпшэнні веласіпеднай інфраструктуры для ўдзелу ў праграмах трансгранічнага супрацоўніцтва. Напрыклад, адна з сумесных задумаў з польскім горадам Аўгустаў — пабудова ў цэнтры Гродна незвычайнага велапешаходнага моста праз Нёман.

## Меліта Станюта



**Зорка беларускай гімнастыкі задумалася пра будучыню, стала бізнэсвумэн і занялася біжутэрыяй.**

Станюта выкупіла краму на трэцім паверсе мінскага гандлёвага цэнтру «Сталіца» і думае пра рэбрэндынг папярэднікаў — крамы «Variety».

Як распавяла Станюта «Нашай Ніве», яна заўсёды марыла пра нейкі ўласны бізнес. Праўда, да гэтага часу казала, што ёй не падабаецца біжутэрыя: спартсменка не носіць ні каралі, ні кольцы. «І вось, та-дам (усміхаецца), я адкрываю менавіта краму біжутэрыі і аксесуараў. Вы, магчыма, не паверыце, але я толькі ўчора зрабіла сабе дзве дзіркі ў вушах. Даўно ўжо хацела насіць завушніцы. Было не балюча, для спартсменкі — гэта як камар укусіў», — зазначыла яна.

«Безумоўна, я адчуваю адказнасць, бо любы бізнес — гэта рызыка. Хоць я і жартую, што збірала грошы на машыну, а купіла цацанкі. Павяла сябе як тыповая жанчына. Гэта ўсё жарты, вядома. Мы працуем ужо 3–4 тыдні, людзі прыходзяць, ім падабаецца. Калі я сюды прыходжу, то лічу кожнага, хто прыйшоў», — кажа Станюта.

У краме ўжо павялічылі колькасць прадукцыі і арыентуюцца на тэндэнцыі ў модзе. Хутка плануецца запуск сертыфікатаў, на наступным тыдні пачнуцца акцыі і зніжкі для студэнтаў і школьнікаў. Бо, па словах Станюты, цэны разлічаны на моладзь. Тут толькі адзін стэнд з золатам і срэбрам. «Як і раней, уся прадукцыя ў «Variety» з Кітая. У гэтым няма нічога ганебнага, шмат сусветна вядомых брэндаў замаўляюць там. Шкада, што ў Беларусі няма буйной вытворчасці. Але я прапанавала дырэктару зрабіць стэнд з вырабамі беларускіх дызайнераў», — кажа гімнастка.

# «Выбары–2016»: скарыстоўваць без спадзяванак



Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

**Па шчырасці — больш за ўсё ў гэтай кампаніі пад умоўнай назвай «парламенцкія выбары» здзіўляюць паводзіны некаторай часткі апазіцыі.**

З уладай усё ясна. Мэта кіроўнага рэжыму — атрымаць прызнанне так званых «выбараў» ды «Палаты прадстаўнікоў» Еўропай (з перспектывай розных бонусаў), нічога пры гэтым не змяняючы. Ці, больш дакладна, якраз змяняючы — але ў горшы бок.

Выбараў як такіх у Беларусі насамрэч няма ад «рэферэндуму–96». Менавіта тады Аляксандр Лукашэнка наўпрост насуперак Канстытуцыі і заканадаўству зняў з пасады законнага старшыню ЦВК Віктара Ганчара і прызначыў Лідзію Ярмошыну, якая днямі назвала «недапушчальным», што кандыдаты скарыстоўваюць выбарчую кампанію... «дзеля палітычных мэтаў сваёй партыі». Далей — болей: кандыдат, па меркаванні Ярмошынай, павінен звяртацца да выбаршчыкаў "як кандыдат у дэпутаты, а не нейкі палітычны дзеяч, які вырашае нейкія пытанні, што тычацца не выбаршчыкаў акругі, а краіны ў цэлым».




У дзвюх фразах — процьма абсурду. Можа, Лідзіі Ярмошынай, якую часам запрашаюць на міжнародныя мерапрыемствы па выбарчай тэматыцы, там забыліся растлумачыць, што для «вырашэння пытанняў выбаршчыкаў акругі» існуюць мясцовыя органы ўлады. А парламент (якога на самай справе ў Беларусі няма) — заканадаўчы орган менавіта краіны ў цэлым. І месца для правядзення палітычных дэбатаў ды прыняцця палітычных рашэнняў, якія тычацца краіны ў цэлым. І парламенцкія фракцыі складаюцца пераважна з прадстаўнікоў палітычных партыяў, дый наогул на парламенцкіх выбарах у першую чаргу вырашаецца, якія партыі перамогуць.

Аднак гэта абсурд толькі тады, калі гаворка ідзе пра сапраўдныя дэмакратычныя выбары і пра сапраўдны парламент, а не пра «палатку», якая ёсць аналагам Вярхоўнага Савета СССР даперабудоўчага часу. Ці мо нейкай мяшанкі з «парламентамі» сацлагераўскіх краінаў, дзе была імітацыя не толькі выбараў, але і псеўдаапазіцыі ў гэных «парламентах». Кажу «мяшанкі», бо ў нашым варыянце псеўдаапазіцыю калі і дапусцяць, дык аднаго-двух дэпутацікаў, не болей (у ГДР, ЧССР, ПНР дапускалі болей, хаця сутнасці рэжымаў гэта не змяняла).

Прэтэндэнты на ролю «кішэннай апазіцыі» маюцца. Гэта, напрыклад, кампанія «Гавары праўду», кіраўніцтва якой дзеля шчасця яе адыгрываць ахвяравала нават брэндам, пад які гэта кампанія стваралася, — сваім лідарам Уладзімірам Някляевым. Бо ён на «кішэнная» ніяк не падыходзіў. Роля кішэнных наогул падыходзіць яшчэ некаторым кандыдатам, прынамсі, усім тым, хто нічога не кажа выбаршчыкам пра тое, што выбараў насамрэч няма. Наадварот, заклікаюць прыходзіць і галасаваць, каб потым «народны абраннік», якога, насамрэч, не абіралі, а прызначалі, вырашаў праблемы выбаршчыкаў акругі. То бок, рабіў тое, пра што кажа Лідзія Ярмошына.

На маю думку, шанцы для такіх «абраннікаў» ёсць. Але канкрэтнага прагнозу рабіць не буду, таму што гэта — чалавечы фактар, які прагназаванню паддаецца цяжка (або, прынамсі, тут трэба быць не палітычным аглядальнікам, а псіхааналітыкам). Маркую, што рашэнне пра гэта могуць прыняць (ці змяніць, калі папярэдне ўжо прынялі) у апошні момант. Магчыма, прызначаць статыстаў — ці, хутчэй, элементы дэкору. А магчыма і не: вырашаць, што Еўропа і без такой дэкарацыі праглыне «выбары» — па геапалітычных прычынах.

Ні пра што іншае, апроч бутафорыі, гаворкі наагул няма. Ні на якія рэальныя саступкі рэжым ісці не збіраецца. Рэальныя саступкі — гэта, найперш, каб прадстаўнікі розных бакоў абавязкова былі ў кожнай выбарчай камісіі (калі бакі іх вылучаюць, натуральна), і каб падлік бюлетэняў быў цалкам празрысты. Тое, што толькі асобныя прадстаўнікі дэмакратаў трапілі ў некаторыя камісіі (як, прыкладам, аўтар гэтых радкоў), нічога не змяняе. Гэтаксама зразумела, што выбары — калі гэта выбары — трэба праводзіць у адзін дзень, датэрміновае галасаванне павінна быць жорстка абмежаваным. Гэта мінімум, але нават і гэтага мінімуму няма. То бок, і выбараў няма.

Але нават у гэтых умовах, з прадвызначаным вынікам (бо ніхто не замінае намаляваць вынік, які хочаш, незалежна ад рэальнага галасавання) найбольш актыўных кандыдатаў не зарэгістравалі па высмактаных з пальца зачэпках. Напрыклад, Мікалая Казлова і Алеся Лагвінца, якому сама Ярмошына зрабіла рэзкую заўвагу з нагоды канцэрта Лявона Вольскага на яго пікеце. А чаму нельга ладзіць канцэрт, хіба гэта забаронена?

Але адмовілі ў рэгістрацыі не за гэта, а за «агітацыйныя матэрыялы», да якіх прыраўнялі візітоўкі, і за «подкуп выбаршчыкаў» газетай «Народная воля». Якую, дарэчы, раздавала не каманда Лагвінца, а рэдакцыя «НВ» дзеля папулярызацыі свайго выдання. Што можна прыдумаць больш смеху вартага?!

У Мікалая Уласевіча ў Астраўцы праблемы з друкаваннем праграмы; у вядомага рэжысёра Юрыя Хашчавацкага ролік з яго яскравым выступам знік з YouTube, паколькі гэта, нібыта, парушэнне «аўтарскіх правоў» беларускага тэлебачання. Якія аўтарскія правы тэлебачанне мае на перадвыбарчы ролік?! Можа, тады і да адказнасці за словы кандыдата прыцягваць не кандыдата, а БТ?

**Рэальныя саступкі — гэта, найперш, каб прадстаўнікі розных бакоў абавязкова былі ў кожнай выбарчай камісіі, і каб падлік бюлетэняў быў цалкам празрысты. Выбары — калі гэта выбары — трэба праводзіць у адзін дзень, датэрміновае галасаванне павінна быць жорстка абмежаваным. Гэта мінімум, але нават і гэтага мінімуму няма**

Здавалася б, навошта ўсё гэта? На выніку, што абвесціць афіцыёз, усё адно ж не паўплываеш, усё схоплена. Адказ уяўляецца адзіным: «абы ціха». Гэта з той жа скрыні, што і словы старшыні ЦВК наконт таго, што «кандыдат — не палітычны дзеяч» (памятаем-памятаем, «палітык у краіне адзін», як выказваўся пра сябе Лукашэнка) і што кандыдат мусіць уздымаць пытанні толькі «выбаршчыкаў акругі», а не «краіны ў цэлым». Дэпутаты дэпутатамі, каго трэба, таго і прызначым — аднак каб кандыдаты не ўздымалі вострых праблемаў, каб не крытыкавалі ўладу, каб не развівалі палітычную актыўнасць.

Не так даўно на сайце радыё «Свабода» быў артыкул «Крэмль мае намер выкарыстоўваць тэрыторыю Беларусі для стварэння гібрыдных пагроз, — даклад аналітычнага цэнтру». У ім падкрэсліваецца, што «Расія хоча ператварыць Беларусь у "шэрую зону", якая будзе крыніцай пагроз бяспекі і стабільнасці краінам Захаду і Украіне». Пазначана, што «аўтарамі дакладу з'яўляюцца кіраўнікі арганізацыі Арсень Сівіцкі і Юры Царык, якія лічацца лаяльнымі ўладам аналітыкамі». Якое гэта мае дачыненне да выбараў? Непасрэднае. Захаду пасылаецца чарговы месідж, гэтакая страшылка: прызнавайце выбары, якімі б яны ні былі (іншых усё адно не будзе), заплюшчвайце вочы на беларускую дыктатуру дзеля сваіх геапалітычных інтарэсаў.

Такім чынам, робіцца разлік на тое, што Еўропа прызнае (адзначыўшы недахопы з якой-небудзь прыдатнай фармулёўкай). Што, дарэчы, мажліва. На жаль...

Аднак найбольш здзіўляюць не напаўзаплюшчаныя вочы еўрасаюзаўскіх чыноўнікаў, не канфармісты з розных палітычных рухаў. Здзіўляюць дэмакратычныя прадстаўнікі, якія слушна сцвярджаюць, што выбараў у Беларусі няма, а тым часам з дзіцячай радасцю паведамлялі, што іх зарэгістравалі кандыдатамі на «выбары» ў «Палату прадстаўнікоў».

Я не пра тых, хто паведамляе пра гэта з іроніяй — я менавіта пра дзіцячую радасць. Цукерку дадуць, думаеце? Не спадзявайцеся. Выбараў у Беларусі няма ўжо два дзясяткі гадоў з гакам. І не прадбачыцца. Гаворка пра тое, што рэальна ніякіх выбараў не будзе, пытанне толькі «прызначаць — не прызначаць». Скарыстоўваць палітычную кампанію — у прыватнасці, дзеля таго, каб тлумачыць людзям, што выбараў на самай справе няма, і што важна, каб яны былі, каб была змяняльнасць улады на выбарах — можна і трэба. Як і ўздымаць падчас кампаніі іншыя вострыя палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя праблемы. Аднак захапляцца ёю як такой — ніякім чынам не да месца. Тым больш, спадзявацца, што вас абяруць. Калі сапраўды і абяруць, дык усё роўна не прапусцяць.

Словам, скарыстоўваць кампанію варта менавіта так, як забараніла Лідзія Ярмошына.

# Эміграцыя ўнутры краіны

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**У Беларусі з'явілася свайго роду «новая эміграцыя». Усё часцей людзі — найперш маладыя і актыўныя — імкнуцца будаваць сваё жыццё так, каб ніяк не перасякацца з дзяржавай. Настолькі, наколькі гэта магчыма.**

Аўтобус са Слоніма ў Жыровічы ідзе прыкладна 15 хвілінаў. Еду і слухаю дыялог дзвюх спадарожніц за спінай.

— Слухай, ты як падатак за дармаедства плаціць будзеш? У сэнсе, з якіх грошай, калі афіцыйна?

— Ды скажу, што маці падарыла. Не напішу ж, што на рынку гандлюю. А ты?

— Я ўжо месяц як паклала працоўную кніжку ў нашым лясніцтве, муж сястры арганізаваў. Я ў іх быццам прыбіральніца. Прыбіраць там няма чаго, дый заробак яны сабе пакідаюць. Затое лічуся там, ужо не будуць пытаць, з чаго жыву.

Я назіраю гэты феномен ужо каля дзесяці гадоў. Усё больш беларусаў імкнуцца максімальна не сутыкацца з дзяржавай. Гэта ўжо сапраўдная культура, сапраўдны лад жыцця. Я ведаю цэлыя сем'і, якія жывуць на здымных кватэрах, якія працуюць без афармлення, нярэдка — для заходніх або расійскіх заказчыкаў (часцей за ўсё гэта сустракаецца сярод праграмістаў і дызайнераў), якія нават не зарэгістраваныя ў сваёй паліклініцы (карыстаюцца платнымі клінікамі), адпраўляюць дзяцей вучыцца за мяжу, афармляюць машыны на бацькоў, часам нават не маюць банкаўскіх картак.

Гэтыя людзі разлічваюцца паміж сабой толькі доларамі або еўра, яны не галасуюць і не звяртаюцца ў міліцыю, стаўшы ахвярай хуліганства, не плацяць падаткі (у сэнсе, не плацяць падаходны падатак і адлічэнні ў ФСАН, то бок тыя, якія грамадзянін мусіць сплачваць сам. А вось ПДВ, падаткі на дарогі, на зямлю ды іншыя, як і акцызы — іх мы плацім усе). Яны імкнуцца ніякай часткай свайго жыцця не датыкацца дзяржавы і яе структур. Але яны не злачынцы, яны жывуць як большасць беларусаў. Проста яны маральна эмігравалі з краіны, фізічна застаючыся ў ёй.

### Паралельная эканоміка і псіхалогія

Калі грамадзяне краіны будуюць між сабой эканамічныя адносіны за межамі афіцыйных, гэта завецца «ценявая эканоміка». Але мне не вельмі падабаецца такі выраз. Яго прыдумалі дзяржчыноўнікі, ён адлюстроўвае іх стыль мыслення. Калі чыноўнікі нешта не бачаць або бачаць дрэнна — значыць, яно знаходзіцца ў «цені». У выніку ў адным кошыку апынаюцца «дзядзька Вася» («нелегальны прадпрымальнік», бо час ад часу, на просьбу сяброў рамантуе ў сваім гаражы чужыя машыны), «цётка Маша» («кантрабандыстка», бо раз на месяц адвозіць пад спадніцай сваякам у Польшчу пару блокаў цыгарэт), і гандляры гераінам на мінскай вуліцы. З пункта гледжання чыноўніка, усе яны роўныя, толькі з першымі двума яму змагацца і лягчэй, і бяспечней.

Калі з гэтай схемы выключыць згаданых наркагандляроў, можна казаць не пра «ценявую», а пра «паралельную» эканоміку. Яе суб'екты не хаваюцца, не выкарыстоўваюць фальшывыя пашпарты, не жывуць на канспіратыўных кватэрах і не друкуюць фальшывыя долары. Яны ходзяць у тыя ж крамы, носяць тую ж вопратку, што і ўсе, і гэтак жа лаюцца з тэлевізарам. Вось толькі яны шчыра не разумеюць, чаму акрамя сваіх дзяцей павінны яшчэ карміць дзяржаву, прорву службоўцаў і людзей у форме.

У снежні 2015-га Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS) прадставіў даследаванне «Ценявая эканоміка Беларусі». Яго аб'ектам было грамадскае ўспрыманне ценявой эканомікі і ступень уцягнутасці ў яе грамадзян. Прынцыпова важны момант: у тлумачэнні тэрміна «ценявая эканоміка» даследчыкі наўмысна «адсеклі» крымінальны рынак (гандаль наркотыкамі, адмыванне грошай, гандаль крадзеным і г.д.) і разглядалі яе як рынкавую вытворчасць законных тавараў і паслуг, якія наўмысна хаваюцца ад дзяржавы.

Што тычыцца асноўных высноў даследавання, то аб'ём ценявой занятасці (праца без афармлення, заробкі ў капэрце) у Беларусі — найвялікшы ў параўнанні з суседнімі краінамі і можа быць ацэнены ў 33% ад ВУП. Сектары, у якіх ценявая дзейнасць найболей распаўсюджаная: будаўніцтва і рамонт, гандаль вопраткай і прадуктамі харчавання, аўтамабільны бізнес, а таксама бізнес, звязаны з продажам электронікі і бытавой тэхнікі. Уцягванне ў ценявую эканоміку беларусы тлумачаць эканамічнымі чыннікамі: кошт тавараў на «шэрым» рынку ніжэй, заробак «у капэрце» дазваляе пазбегнуць падаткаў і, адпаведна, павялічыць прыбытак. А значыць, ён вышэй за афіцыйны.

Занятасць у ценявой эканоміцы больш характэрная для найменш сацыяльна абароненых груп і для маладых людзей.

Важны момант для разумення «ценявой эканомікі па-беларуску»: даследаванне паказала высокі ўзровень успрымання ценявой эканамічнай актыўнасці як нормы. 40% рэспандэнтаў апраўдваюць нелегальную занятасць, а атрыманне зарплаты ў капэрце ўспрымаецца як нармальная з'ява паловай насельніцтва. Пры гэтым ценявая эканоміка шкодзіць дзяржаве, але мае і зваротны эфект — яна стварае эканамічны кошт — лічыць акадэмічны дырэктар BISS Аляксей Пікулік.




### Цень — значыць цень

Аднак у дзяржавы іншы погляд на маштабы эканамічнага «ценю». Яшчэ ў 2012 годзе міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян заявіў, што аб'ём ценявой эканомікі ў Беларусі складае 8–10% ВУП. Пры гэтым міністр удакладніў, што ў гэтыя 8–10% уключаныя таксама прыбыткі ад прысядзібных гаспадарак. «Таму, натуральна, тут не трэба казаць, што гэта занадта вялікая сума для нашай краіны. Яна значна менш, калі адкінуць гэтыя прыбыткі», — адзначыў ён.

Я, калі бачу выступы Палуяна, кожны раз думаю, што ён — іншапланецянін, які прыляцеў да нас з візітам добрай волі. Таму што 8–10% «ценявога» ВУП — гэта, мякка кажучы,



трохі нерэальна. 33% у версіі BISS выглядаюць куды больш адэкватна.

Аднымі таварна-грашовымі адносінамі чалавечае жыццё, вядома, не абмяжоўваецца. «Унутраныя эмігранты» імкнуцца нават псіхалагічна абстрагавацца ад беларускай рэчаіснасці. Моладзь можа з галавой сысці ў нейкую субкультуру, людзі трохі старэй дзякуючы інтэрнэту жывуць жыццём Масквы, Берліна або Нью-Ёрка — каму што маральна бліжэй. Я бачыў, якой нечаканасцю для іх стала дэнамінацыя, — многія настолькі адарваліся ад беларускай медыяпрасторы, што нават не ведалі пра пераход на новыя грошы.

### Паралельная Беларусь

У маім доме здымае кватэру малады хлопец-кампутаршчык. Для ўсяго квартала збірае і рамантуе кампутары, наладжвае праграмы, падключае да інтэрнэту, кансультуе. Усё — за вельмі сціплыя грошы. Ніякай рэкламы — хапае «сарафаннага радыё». Афіцыйна нідзе не працуе — і атрымлівае больш, чым на любой працы. Ён не плаціць падаткаў, а калі яго спрабавалі забраць у войска, ён проста ўставіў у вочка дзвярэй вэб-камеру, каб бачыць, хто да яго ідзе, не падыходзячы да дзвярэй самому. Гэта — Паралельная Беларусь.

Паводле ацэнак МУС, не меней за 20 тысяч жыхароў Гродзенскай вобласці працаздольнага веку афіцыйна нідзе не працуюць, але пры гэтым ездзяць на дарагіх машынах, будуюць дарагія катэджы або валодаюць некалькімі кватэрамі. На думку праваахоўнікаў, гэтыя людзі зарабляюць на нелегальным транспамежным гандлі. Хоць самі гродзенцы кажуць, што «з мяжы» корміцца як мінімум на парадак больш людзей, проста далёка не ўсе маюць сапраўды вялікія прыбыткі.

Дайшло да таго, што гады два таму пракуратура Гродзенскай вобласці прапанавала адмовіць тым, хто ездзіць у суседнія Польшчу і Літву гандляваць саляркай і цыгарэтамі, у бясплатнай медыцыне і танных дзіцячых садках. І гэта — Паралельная Беларусь.

Сям'я маіх знаёмых з прадуктаў купляе ў краме хіба што хлеб і соль. Мяса і каўбасы яны купляюць наўпрост у знаёмага фермера. За мёдам ездзяць да далёкага сваяка, які трымае пчальнік. Сыр, тварог — у працаўніцы аднаго з малаказаводаў. Кураціну і яйкі вязуць ад вясковых знаёмых. Цукеркі дзецям прывозяць з Украіны, адзежу сабе і дзецям — з Польшчы. Гародніну і зеляніну бяруць у бабуль, што гандлююць ля выхаду з метро. Зразумела, што ўсе іх грашовыя разлікі вядуцца, абыходзячы непатрэбныя фармальнасці накшталт кас, банкаў і падатковай інспекцыі і «абмінаюць» ПДВ. Гэта — Паралельная Беларусь.

У красавіку мне ўпершыню давялося наведаць у вёсцы сваякоў, далёка ад Мінска. Пры заробку ў $150 вясковая хата — поўная чара, ёсць і плазменны тэлевізар, і лядоўня Bosh. Гаманкая гаспадыня распавядае: «Ну, гадую 18 кабанчыкаў.

**«Унутраныя эмігранты» імкнуцца нават псіхалагічна абстрагавацца ад беларускай рэчаіснасці. Моладзь з галавой сыходзіць у нейкую субкультуру**

Дачка ў Мінску вучыцца. Гэта шэсць кабанчыкаў: чатыры на вучобу, два — на жыццё. Сын з сяброўкай ажаніліся, хату будуюць. Яшчэ пяць кабанчыкаў ім на будоўлю. Астатняе сабе — жыць жа трэба». На лагічнае пытанне: «А чым вы гэтую чараду кабаноў кормiце?», адказ гаспадыні быў нечаканы: «Ну я ж на ферме працую. У дзень два мяшка камбікорму прыцягваю. Плюс гарод — буракі, бацвінне, морква розная. Плюс тое, што з кухні застаецца. Хапае...» Гэта — Паралельная Беларусь.

Вось толькі пытанне: ці жадаем мы ўсё сваё жыццё пражыць у такой — паралельнай — дзяржаве?

# Родная душа

## Згадваючы Генадзя Бураўкіна



Сяргей ШАПРАН

**Працяг. Пачатак у № 32**

**29 кастрычніка 2004 г.** Быў у Бураўкіна, гаварылі пра яго новую кнігу «Жураўліная пара», рукапіс якой ён спачатку па традыцыі занёс у «Мастацкую літаратуру» — у выдавецтва, з калектывам якога звязаны практычна ўвесь яго літаратурны лёс. І неўзабаве «Жураўліная пара» была ўнесена ў тэматычны план выдавецтва на 2003 год. Праўда, спачатку там паскардзіліся, што, маўляў, час сёння такі — на беларускую паэзію заказаў мала. Але ў выпадку з «Жураўлінай парой» прычын для турбот не было — колькасць папярэдніх заказаў выхад кнігі гарантавала. Аднак у 2003-м яна не выйшла — абяцалі выдаць у 2004-м... Тым часам у пісьменніцкіх колах даўно гаварылі пра «чорны спіс» літаратараў — тых, каго загадана не друкаваць у сілу іх «апазіцыйнасці». «Урэшце я зразумеў, — гаварыў Бураўкін, — што хоць адмовіць мне пад добрапрыстойнай падставай не могуць, але і выпускаць кнігу не збіраюцца. Тады я і напісаў заяву: у сувязі з відавочным нежаданнем выдаваць кнігу рукапіс прашу вярнуць». У недзяржаўным жа выдавецтве «Беларускі кнігазбор» да «Жураўлінай пары» і



аўтара паставіліся больш чым добразычліва. Вынік — «восеньская» кніга Бураўкіна выйшла якраз восенню. Для Генадзя Мікалаевіча падзея, па яго прызнанні, неардынарная. Праўда, заўважаў, радасць ад яе ў яго ўзросце не павінна быць такой відавочнай. «Я памятаю, якое гэта было неверагоднае шчасце, калі выйшла першая мая кніга! — прыгадваў Бураўкін. — Ужо не ведаю, колькі разоў я яе тады перагартаў-перачытаў! Потым былі іншыя кнігі, якія выходзілі ў Мінску і Маскве, на іншых мовах. Да самога факту іх з'яўлення я неяк прызвычаіўся, і ранейшага ашаламляльна радаснага адчування ўжо не было. Але цяпер такі час, што гэтае пачуццё вярнулася — настолькі рэдка выходзяць кнігі... Я сапраўды невыказна рады, што мая "Жураўліная пара" выйшла, што такім чынам перагорнута яшчэ адна старонка ў маім жыцці».

Казаў яшчэ Генадзь Мікалаевіч пра намер узяцца за мемуары, нават назву прыдумаў — «Вузлы памяці». Я нагадаў, як некалі ён сказаў пра Быкава: «Калі Васіль напісаў успаміны, я зразумеў, што ён пастарэў. У мяне ж такога адчування няма, таму і не пішу ўспамінаў». Значыць, запытаўся я, цяпер такое адчуванне з'явілася? «Лічы, Сярожа, што і я ўжо пастарэў, — адказаў Бураўкін. — Раней у мяне не было адчування, што мне ўжо час прыгадваць, а цяпер яно ёсць — што мне час пачынаць фіксаваць тое, што было важна для мяне ў гэтым жыцці. Гэтае рашэнне выклікана яшчэ і тым, што апошнім часам шмат начытаўся і наслухаўся ўспамінаў знаёмых мне людзей, якія вельмі ўмела кажуць паўпраўду, а часта і няпраўду. І хачу, каб засталіся і мае сведчанні. Я не патрабую, каб лічылі тое, што напішу, канчатковай ісцінай, але хацеў бы, каб тыя, хто будзе потым ацэньваць тыя падзеі, у якіх я браў удзел, і людзей, з якімі быў добра знаёмы, прымалі пад увагу і мой пункт гледжання...»

Зрэшты, не ўсё Генадзь Мікалаевіч гаварыў пад дыктафонны запіс, у тым ліку, напрыклад, пра тое, як яго запрасіў на працу ў «Праўду» Міхаіл Зімянін. Увогуле распавядаў цяпер пра гэта, як сам адзначыў, з той мэтай, што ў тыя часы нельга было меркаваць пра людзей адназначна. «Гэта пра Лукашэнку можна судзіць адназначна, пра Шэймана, а пра таго ж Машэрава — не». І хоць Быкаў, па яго словах, даў Машэраву адназначную характарыстыку, але Бураўкін і Быкаву гаварыў, што прытрымліваецца іншай думкі.

— Машэраў прызначыў мяне старшынёй тэлерадыё, мяне, «нацыяналіста»! — казаў Генадзь Мікалаевіч. — Ён некалькі месяцаў мяне ўгаворваў, а я адмаўляўся! Пакуль нарэшце не сказаў: «Вось у мяне трыццаць прэтэндэнтаў, а ты прымушаеш сябе ўгаворваць! Я не магу адкрыта выказвацца ў падтрымку беларускай мовы, інакш мяне назавуць нацыяналістам. Я — не магу, а ты — рабі!» І пра Брэжнева сам-насам Машэраў мне гаварыў: «Ты што, думаеш, я не лічу яго, як і ты, ідыётам? Я ўсё цудоўна разумею. Але калі буду казаць адкрыта, мяне здымуць. І што мне з таго? Ну, атрымаю добрую пенсію, але на маё месца дашлюць кагосьці іншага, і для рэспублікі ад гэтага можа быць горш». Гэта, можа быць, Машэраў толькі аднаму мне сказаў. І я, лічу, павінен пра гэта напісаць. Так, можа быць, ён не быў шчыры, можа быць, ён быў са мной артыстам — ён жа ведаў, што я літаратар і магу пра гэта напісаць. І калі Машэраў прызначыў мяне старшынёй тэлерадыё, ён сказаў, што загадзя папярэдзіць, калі яго будуць здымаць. «Тады, — сказаў, — альбо ты сам сыдзеш, альбо я табе прапаную іншае месца, гледзячы, якія будуць вакансіі». Гэтаксама і Зімянін запрасіў мяне, каб пагаварыць. Я быў малады і паводзіў сябе, напэўна, нават нахабна. Зімянін запытаўся пра маё стаўленне да Быкава. Я адказаў: «Давайце лепш не будзем гаварыць пра гэта, бо Быкаў — мой сябар».



Юлія Якаўлеўна і Генадзь Мікалаеіч Бураўкін

**Машэраў прызначыў мяне старшынёй тэлерадыё. Ён некалькі месяцаў мяне ўгаворваў, а я адмаўляўся! Пакуль нарэшце не сказаў: «Я не магу адкрыта выказвацца ў падтрымку беларускай мовы, інакш мяне назавуць нацыяналістам. Я — не магу, а ты — рабі!»**

— «Дык што ж, — перапытаў Зімянін, — калі сябар, дык і крытыкаваць нельга?» — «Можна, але не так, як гэта робіцца ў адносінах да Васіля, у тым ліку ў "Правде"...» Ужо потым Зімянін сказаў, што ўзяў мяне ў "Праўду" менавіта за маю чэснасць, паколькі я ж не мог не разумець, якое існуе ў «Правде» стаўленне да Быкава і што ў прынцыпе я павінен быў бы сказаць, але не сказаў... Пазней, калі Васіль напісаў «Сотнікава» — аповесць яшчэ не была апублікавана, але Зімянін, не ведаю, якім чынам, даведаўся пра гэта, спытаў аднойчы: «Быкаў быццам бы напісаў новую аповесць. Вы яе чыталі?» — «Чытаў». — «І як?» — «Лічу, што гэта самая моцная яго рэч». — «А вы не маглі б даць пачытаць, аднак каб пра гэта ведалі толькі вы і я, і больш ніхто». — «Але яна на беларускай мове». — «А вы думаеце, што я ўжо і забыўся беларускую мову?!» (Зімянін жа ў юнацтве нават вершы пісаў па-беларуску.) І калі мы сустрэліся з Васілём, я распавёў пра размову з Зімяніным, бо не мог жа я яму не сказаць. У адказ Васіль моцна паморшчыўся, аднак я пераканаў яго, што варта даць пачытаць... Потым ужо Зімянін сказаў, што аповесць яму спадабалася. «А што, калі мы дамо ў "Правде" кавалак з аповесці? Як паставіцца да гэтага Быкаў?» — запытаўся ён. Я адказаў, што добра было б. Але калі распавёў пра гэта Васілю, ён засумняваўся: а ці варта, якія могуць быць наступствы? І, бачачы такія ягоныя сумненні, я не стаў нагадваць пра аповесць Зімяніну, а сам ён больш пра яе не загаворваў.

Яшчэ адна гісторыя. Вырашыў Генадзь Мікалаевіч напісаць да дня нараджэння Змітра Паўлычкі невялікае віншаванне ў газету. Патэлефанаваў знаёмаму ў «Звязду» (не ўзгадаю прозвішча): маўляў, ці можа быць апублікавана? «Вядома, — адказаў той, — толькі невялікі артыкул пішы». «Аднак ведаючы, якое існуе да мяне стаўленне, — працягваў Генадзь Мікалаевіч, — папрасіў яго: "Ты схадзі да рэдактара (з якім, між іншым, мы даўно знаёмыя) і ўдакладні — ці варта пісаць? Мне самому няёмка яму тэлефанаваць, бо калі нельга будзе надрукаваць, дык яму будзе няёмка мне адмовіць. А ты мне ўжо потым прама скажаш". Ужо не ведаю, ці хадзіў ён да рэдактара, аднак калі я патэлефанаваў на наступны дзень, ён сказаў: "Пішы!" Ну, і я напісаў невялічкі артыкул, на тры з паловай старонкі. Сам аднёс, зрабіў гэта за тыдзень да дня нараджэння Паўлычкі. Дамовіліся, што будзе апублікавана менавіта ў дзень яго нараджэння. Прычым мяне запэўнілі, што рэдактару спадабалася, і надрукавана будзе дакладна. І вось вяртаюся са сваіх "лясоў", хачу патэлефанаваць Дзмітру, але спачатку вырашыў адкрыць газету, а там — нічога! Тэлефаную [Бураўкін назваў прозвішча свайго знаёмага са «Звязды»]: "Як жа так?!" Той адказвае: "Я сам здзіўлены! Учора матэрыял быў на паласе. Я, супакоены, пайшоў дадому, а сёння яго ўжо няма!" — "Схадзі спытай у рэдактара". Тым часам я патэлефанаваў Паўлычку, але яго не было дома, дачка сказала, што пайшоў да Кучмы. Тэлефаную ў "Звязду" — не дазваніцца. Зноў патэлефанаваў Паўлычку. Ён распавядае: быў у Кучмы, сам-насам. Кучма адразу запрасіў у асобны пакой, дастаў пляшку каньяку, закуска была ўжо падрыхтавана. Павіншаваў з днём нараджэння, сказаў, што падпісаў указ аб узнагароджанні званнем Героя Украіны. «Ты, маўляў, будзеш здзіўлены, але я не такі дурны, як вы ўсе ўяўляеце, — сказаў Кучма. — Я ведаю, што ты ў апазіцыі. Але ты быў і будзеш, а Кучма быў прэзідэнтам, потым — не будзе. Быў Краўчук прэзідэнтам — быў Паўлычка. Быў Кучма — быў Паўлычка. Будзе нехта іншы пасля Кучмы — Паўлычка ўсё роўна будзе. Калі будзе прэзідэнт горшы за Кучму, тады той час, калі я быў прэзідэнтам, будуць прыгадваць па-добраму. Будзе лепшы — апляюць тыя часы, калі Кучма быў прэзідэнтам. Але хто-небудзь, можа, потым прыгадае, што быў такі ўказ аб узнагароджанні Паўлычкі, пад якім будзе стаяць прозвішча Кучмы. І скажуць: "А не такі ўжо дурны быў гэты Кучма!"».

Ужо потым Бураўкін датэлефанаваў рэдактару «Звязды» — той кажа: «Вы разумееце, рэклама, такія часы…» Тады Бураўкін паведамляе, што Паўлычку дадзена званне Героя Украіны. «Гэта іншая справа, — адказвае рэдактар. — Абавязкова апублікуем». — «Напішыце пра званне ў пастскрыптуме і павіншуйце ад майго імя або ад імя рэдакцыі». Пра ўсё дамовіліся, але ў прызначаны дзень артыкул не выходзіць! Бураўкін зноў патэлефанаваў рэдактару: «Можа, справа ў маім імені? Можа, варта было падпісацца псеўданімам?» — «А можа…» — пагадзіўся быў рэдактар, аднак тут жа спахапіўся і змоўк.

«Але ты ж разумееш, — працягваў Генадзь Мікалаевіч, — што Паўлычку не патрэбныя віншаванні ад псеўданіма — яму патрэбныя віншаванні альбо ад майго імя, альбо ад імя Барадуліна. Таму я сказаў рэдактару: "Калі матэрыял не выйдзе ў пятніцу, забараняю вам яго друкаваць і аддаю ў іншую газету, але пры гэтым вымушаны буду распавесці гісторыю, чаму віншаванне з'явілася так позна". І матэрыял нарэшце надрукавалі. Мабыць, рэдактар параіўся дзесьці "наверсе", бо сам ён, вядома, не мог прыняць такое рашэнне…

**4 лістапада 2004 г.** Генадзь Мікалаевіч падараваў сваю новую кнігу, у якой быў ужо такі надпіс: «Сяргею Шапрану, маладому майму сябру, з якім мне добра і лёгка ў маёй восені. Генадзь Бураўкін. 2.XI.2004 г.» Нечаканы для мяне па сваёй цеплыні аўтограф. Збянтэжаны, я пажартаваў, што калі з'явіцца мая кніга, дык падпішу: «Майму старэйшаму сябру». — «Нічога тут запярэчыць не магу», — лагодна ўсміхнуўся Бураўкін.

Потым мы гадзіны паўтары гутарылі, дакладней — распавядаў Генадзь Мікалаевіч. Так, у адказ на маё пытанне, сказаў, што верш «Шаноўны дружа мой…» у яго новай кнізе прысвечаны Нілу Гілевічу. «Ніл пра гэта ведае, — гаварыў Бураўкін. — Верш калісьці быў апублікаваны ў "Народнай волі". Тады мне патэлефанаваў Мікалай Матукоўскі, спытаў: "Гэта Нілу прысвечана?" — "Так". — "Ён пакрыўдзіцца". — "Пакрыўдзіцца, а потым адыдзе". Затым ужо Ніл патэлефанаваў Мікалаю — спытаў: "Ты чытаў, што наш сябар пра мяне напісаў?.." Гэта бяда Ніла. Ён сапраўды шмат зрабіў для беларускай літаратуры, для беларускай мовы, але ён такой ужо высокай думкі пра сябе! Ну, нельга ж так! Нядаўна, у верасні, у Доме літаратара была вечарына Ніла. Я не пайшоў, і правільна зрабіў. І добра, што Рыгор не пайшоў, — мы б не вытрымалі. Потым мне расказвалі, што нехта (здаецца, гэта быў Уладзімір Конан), выступаючы, сказаў: "Хто такі Гілевіч? — гэта Якуб Колас і Янка Купала разам узятыя". Іншы на месцы Гілевіча аджартаваўся б, а Ніл сказаў: "Я рады, што некаторыя з маіх сяброў разумеюць, хто такі Ніл Гілевіч". Сумна, калі гэта Конан сказаў, бо калі б нейкая экзальтаваная жанчына… Мікалай у канцы жыцця таксама разышоўся з Нілам — пасля таго, як той напісаў ліст у "БДГ". Потым Ніл напісаў ліст ужо Мікалаю. Ну, раз напісаў, дык Мікалай таксама лістом адказаў. Ён мне даваў чытаць той ліст. Самае страшнае ў ім было (здаецца, гэта быў апошні абзац): "Ніл, задумайся: раней ты разышоўся з Васілём, потым ты разышоўся з Генадзем, зараз са мною. З кім ты застаешся?.." Праз месяц Мікалай памёр».



**Не мог не хваляваць мяне лёс Саюза пісьменнікаў… У мяне было адчуванне жахлівай несправядлівасці ў адносінах калі не да самай святой справы ў гісторыі беларускай культуры, дык да адной з самых святых**

У звязку з гэтым аповедам Генадзь Мікалаевіч прыгадаў, як аднойчы сустрэліся Макаёнак і Чыгрынаў: «Іван ішоў і нешта думаў пра сябе, і тут сустракае Макаёнка. Іван кажа: "Вось іду і думаю (гаварыў ён звычайна на рускай мове, а дакладней — на магілёўскай трасянцы): у нас ёсць толькі два вялікія пісьменнікі…" — "Ну, першы — гэта я, — пажартаваў Макаёнак. — А хто другі?"».

Генадзь Мікалаевіч распавёў яшчэ пра Мікалая Дземянцея. Калі той быў сакратаром ЦК па сельскай гаспадарцы, неяк папрасіў пазнаёміць з Быкавым і Барадуліным: «Такія людзі, а я не знаёмы! Паехалі б куды-небудзь на прыроду, прыгатавалі б юшку! Але што параіш прачытаць перш, чым сустракацца? А то я ў літаратуры не разбіраюся». Бураўкін, параіўшы «Сотнікава» і «Знак бяды», барадулінскую «Баладу», яшчэ нешта, сказаў пра тое Барадуліну — ён у адказ: «Вядома-вядома!» Паведаміў Быкаву — той паморшчыўся: «Навошта?» — «Васіль, Дзямянцей так кажа пра зямлю, пра ўсё, што з ёй звязана, што, можа, табе будзе цікава». — «Ну добра», — пагадзіўся Быкаў. Але сустрэча не адбылася, паколькі Бураўкін з'ехаў у Нью-Ёрк. Калі ж Дземянцея прызначалі старшынёй прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Бураўкін напісаў на яго эпіграму, якую даслаў у лістах да сяброў. І вось вяртаецца ў Беларусь, а яму кажуць: «Якую выдатную эпіграму напісаў на Дземянцея Грахоўскі!» — «Якую?» — пацікавіўся Бураўкін, думаючы, што, можа, Грахоўскі напісаў нешта цікавейшае за яго. І Бураўкіну зачытваюць… яго ўласную эпіграму. «Дык гэта ж я напісаў!» — дзівіцца ён, а яму ў адказ: «Сяргей Іванавіч казаў, што ён». Сустрэўшыся неяк з Грахоўскім, Бураўкін спытаў: «Што ж вы кажаце, што гэта вы напісалі?» — «Ну, можа, і не я», — няпэўна адказаў Сяргей Іванавіч…

А калі Бураўкін яшчэ ўзначальваў Дзяржтэлерадыё, тэлефануе яму аднойчы Дземянцей — пасля таго, як па тэлевізары паказалі нейкі спектакль (што за спектакль — Бураўкін ужо не памятаў, але казаў, што нічога такога ў ім не было). «Што гэта ў цябе ўчора па тэлевізары было?!» — незадаволена пытаецца Дзямянцей. Бураўкін у адказ: «А што вы лезеце не ў сваю справу, у тое, у чым не разбіраецеся?! Я ж не лез у вашыя пытанні, не раіў вам, калі вы былі сакратаром па сельскай гаспадарцы!» І Дземянцей пасля паўзы раптам кажа: «Гэта я раней лічыў, што не разбіраюся, а цяпер зразумеў, што вельмі нават разбіраюся!» Пра гэтую размову Бураўкін распавёў Быкаву: «Вось, Васіль, дару табе тыпаж: як чалавек, падняўшыся па службовай лесвіцы ўверх, лічыць, што разбіраецца ва ўсім, раз ужо яго на гэтую пасаду прызначалі». Быкаў пагадзіўся, што гэта цікава, але нічога пісаць на гэтую тэму не стаў.

11 мая 2006 г. Міністэрства юстыцыі ставіць пытанне аб ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў (такую заяву Мінюст падаў у суд). Бураўкін разам з Алесем Пашкевічам, Алесем Масарэнкам і яшчэ кімсьці з літаратараў абмяркоўвалі сёння ў Мінюсце гэтае пытанне. Падчас выступу ў Генадзя Мікалаевіча спынілася сэрца. Ён у рэанімацыі.

**16 мая.** Разам з Глебам Лабадзенкам былі ў Бураўкіна ў лечкамісіі. Генадзь Мікалаевіч выглядаў так, нібы нічога кепскага з ім не здарылася (пазней лекары паставілі дыягназ — інфаркт), таму я пажартаваў: «Генадзь Мікалаевіч, чаму вы так добра выглядаеце?!» Бураўкін у адказ: «Сябар называецца! — "чаму вы так добра выглядаеце?!"».

Я перадаў запіску, што напісаў Барадулін:

*«Генадзь!*
*Пішу табе з Вушачы, дзе помняць цябе і жадаюць, каб ты хутчэй акрыяў. Усе бары й пералескі, усе азёры й рэкі (а іх пакуль яшчэ багата), усе дарогі й сьцяжынкі чакаюць цябе! Каб не захлынуцца ў чорнай скрусе без Бураўкіна ўсёй Беларусі, жыві сто год!*
*Чалом!*
*Рыгор*
*14.V.06».*

**10 чэрвеня.** Калі быў у Бураўкіна, запытаўся, што ж усётакі адбылося тады ў Міністэрстве юстыцыі:

— Тое, што адбылося, я больш ведаю не па ўласных успамінах, а з аповедаў іншых людзей, — казаў Генадзь Мікалаевіч. — У той дзень у мяне не было прадчування, што нешта такое можа здарыцца. Але справа, відаць, у тым, што гэта нядобрыя эмоцыі назапашваліся ў душы ўвесь апошні час. Я, як чалавек неабыякавы, не магу не рэагаваць на тое, што адбываецца ў роднай краіне. І, канешне, не мог не хваляваць мяне лёс Саюза пісьменнікаў, тым больш што я з'яўляюся адным з ветэранаў пісьменніцкай сям'і, з якой звязана літаральна ўсё маё творчае жыццё. Звязана не толькі з самім саюзам, але і з тымі людзьмі, якія некалі былі ў гэтай арганізацыі, узначальвалі яе і якія сапраўды засталіся ў душы народа, у яго памяці. Цяпер жа пастаўлена пытанне аб ліквідацыі саюза. Прычым з-за абсалютна несур'ёзных, фармальных, на мой погляд, прычын. Гэта было для мяне сапраўднае ўзрушэнне. І таму, калі пайшлі суды, я хадзіў на іх і па абавязку душы сваёй, і проста па сваім характары. У мяне было адчуванне жахлівай несправядлівасці ў адносінах калі не да самай святой справы ў гісторыі беларускай культуры, дык да адной з самых святых. Бо Саюз беларускіх пісьменнікаў — гэта і Янка Купала, і Якуб Колас, і Аркадзь Куляшоў, і Пімен Панчанка, і Максім Танк, і Іван Мележ, і Пятрусь Броўка, і Уладзімір Караткевіч, і Васіль Быкаў, і Алесь Адамовіч… Усё тое таленавітае, па чым зямлю нашу ведаюць ва ўсім свеце… А порстскія чыноўнікі вырашылі адным махам «ліквідаваць» усё гэта! Такое, не пабаюся гэтага слова, злачынства перад беларускай гісторыяй не магло не хваляваць. Таму, калі Алесь Пашкевіч сказаў, што прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі хочуць неафіцыйна з намі пагаварыць, у гэтым мне ўбачыўся нейкі крок да прымірэння ці да пошукаў кампрамісу. Прычым было сказана, што пажадана, каб удзел у гутарцы ўзяў і я… У той час я жыў на лецішчы і паехаў проста з-за пісьмовага стала, спадзеючыся, што вярнуся праз некалькі гадзін…

Гаворка не была грубай, зняважлівай, але пазіцыі нашыя з прадстаўнікамі міністэрства ў той момант, калі я ўзяў слова, на жаль, не надта сыходзіліся. Я пачаў з таго, што з-за нявопытнасці маладых супрацоўнікаў апарата СБП фармальныя парушэнні нейкіх інструкцый і бюракратычных закаручак сапраўды былі, але гэта не настолькі сур'ёзна, каб гаварыць аб ліквідацыі арганізацыі, у якую, дарэчы, уваходзяць усе жывыя народныя пісьменнікі. І хай нехта збірае новую, «правільную» літаратурную суполку — на здароўе! Толькі не трэба дзеля таго, каб стварыць ім лёгкае, забяспечанае дзяржавай жыццё, ліквідоўваць тое, што ўжо ёсць. Тым больш, што наш саюз мае перад нацыянальнай літаратурай такія заслугі, якіх у новага, даруйце, пакуль што няма…

На пасяджэнні Вярхоўнага суда рассыпалася адно з самых сур'ёзных, палітычных абвінавачванняў — быццам бы СБП правёў у Доме літаратара з'езд «казулінскай» Сацыял-дэмакратычнай партыі. Такім чынам, падстаў для ліквідацыі не засталося… Я гаварыў і міжволі адчуваў бяссілле перад тупой бюракратычнай сцэнай: ты выкладаеш відавочныя аргументы, а яны не ўспрымаюцца! Відаць, гэта і было апошняй кропляй, якая прывяла да таго, што раптам я адчуў: мне не хапае паветра… Пасля, як потым мне распавялі хлопцы, я сказаў: «Божа, а чаго я так хвалююся?», задрыжаў, пасінеў і ўпаў тварам на стол. Урачы сказалі, што ў мяне на чатыры хвіліны спынілася сэрца. На маё вялікае шчасце, побач быў Алесь Масарэнка — чалавек вопытны ў «сардэчных» справах: ён сунуў мне ў рот нітрагліцэрын і пачаў масаж сэрца. Калі праз нейкі час я прахапіўся, быў вельмі здзіўлены — чаму Алесь масажыруе мне грудзі і спіну і крычыць: «Дыхай, Генадзь! Дыхай!»? Памятаю, я падумаў: а чаго дыхаць? Хіба я не дыхаю? І калі я, як у тумане, узняўся з крэсла, усе кінуліся з пытаннем: «Ну што? Ну як вы?!» Я пажартаваў у адказ: «Не дачакаецеся!» «Хуткая дапамога» прыехала хвілін праз дваццаць. Зрабілі ўколы і адвезлі мяне ў рэанімацыю… Дыягназ — буйнаачаговы інфаркт міякарда…

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Патрэбны галоўны па крымскіх шашках

Ураёным горадку Берыслаў, што ў Херсонскай вобласці, 29 жніўня пры садзейнічанні Федэрацыі футбола Украіны была створана Федэрацыя футбола Крыма. Удзельнікамі сходу быў абраны прэзідэнт новастворанай федэрацыі, а таксама прынятае рашэнне пра аднаўленне футбольнага клуба «Таўрыя» (Сімферопаль). Нагадаем, што сімферопальскі клуб дэ-факта спыніў сваё існаванне пасля акупацыі Крыма. Новая каманда будзе месціцца ўсё ў тым жа Берыславе, а свой шлях пачне з аматарскай лігі. Навіна з Берыслава стала медыя-бомбай ва ўкраінскім інтэрнэце. Можна неяк зразумець матыў адраджэння «Таўрыі» ў эміграцыі (клуб увайшоў у гісторыю ўкраінскага футбола як першы чэмпіён незалежнай Украіны). Але навошта ствараць цэлую футбольную федэрацыю, якая складаецца з адной каманды? Пакуль адны намагаюцца знайсці ў гэтым нейкую логіку, іншыя жартуюць. Так, у сецiве ўжо ўзнікла ініцыятыва па стварэнні эміграцыйнай крымскай федэрацыі бабслею і шашак.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. «Ад мора да мора» не будзе?

Візіт Ангелы Меркель у мінулы чацвер у Чэхію польская ліберальная прэса трактуе як канец усіх ілюзій наконт таго, што Усходняя Еўропа здольная стварыць асобны геапалітычны блок. Гэты блок, які таксама разглядаўся як рэінкарнацыя сярэднявечнай Рэчы Паспалітай, што цягнулася ад Балтыйскага мора да Чорнага, на думку кансерватараў Польшчы і Венгрыі, мог стаць драйверам новай усходняй палітыкі ЕС. Яе абрысы — інтэграцыя ў склад ЕС Украіны, больш жорсткая антырасійская палітыка, кансерватыўныя каштоўнасці. На думку польскіх лібералаў, чэшская палітычная эліта падчас візіту яскрава прадэманстравала, што будзе жорстка трымацца арыентацыі на Берлін. Як следства, заклікі наконт асобнай усходнееўрапейскай пазіцыі ўнутры ЕС будзе прынцыпова сабатаваць. Між тым, без удзелу Прагі, як мяркуюць палякі, сур'ёзная рэгіянальная ініцыятыва ва Усходняй Еўропе маларэальная.

**Паводле польскай і нямецкай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Абхазію могуць прызнаць?



Грузінская грамадскасць занепакоеная некаторымі тэмамі армянскага палітычнага дыскурсу. У Ерэване ламаюць галаву — куды падзець сірыйскіх армян, якія бягуць ад вайны на гістарычную радзіму. Спачатку ўзнікла ідэя за іх кошт каланізаваць малалюдныя часткі Нагорнага Карабаху. Аднак жадаючых ехаць у дзікія правінцыйныя мясціны сярод рэпатрыянтаў няшмат. Адсюль узнікла ідэя накіраваць сірыйскіх армян у Абхазію. Там не толькі добры клімат. Армянская дыяспара ў Абхазіі — самая вялікая этнічная меншасць у краі, і ў дадатак добра прадстаўленая ў бізнесе. Агучаны праект вельмі небяспечны для Грузіі, паколькі, як піша прэса, абхазы могуць патрабаваць ад армян дапамогі ў міжнароднай легітымацыі. На думку грузінскіх СМІ, уплывовая армянская дыяспара сапраўды можа дапамагчы Сухумі атрымаць статус прызнанай у свеце краіны. Праўда, ва ўсіх гэтых канструкцый ёсць адзін непрадказальны фактар. Наколькі Масква зацікаўленая, каб Абхазія сапраўды стала незалежнай дзяржавай?

**Паводле грузінскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. З наркотыкамі да сацыялізму!

Як піша брытанская прэса, у Паўночнай Карэі знайшлі новы сродак павелічэння тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Занятым на будоўлях рэгулярна выдаюць хімічныя наркотыкі накшталт амфетаміну. Прэпарат штучна выклікае энтузіязм, які выліваецца ва ўдарную працу. Быццам бы гэтым наркотык выкарыстоўваўся падчас узвядзення як мінімум 60 будынкаў у сталіцы КНДР. Усяго ў эксперыменце ўдзельнічала каля тысячы будаўнікоў. Сёння некаторыя з іх маюць праблемы са здароўем, выкліканыя ўжываннем амфетаміну. Нібыта, жадаючы неяк адпомсціць уладам, яны і перадалі інфармацыю пра афіцыйную наркаманію на Захад. Паколькі крыніцы інфармацыі недакладныя, гісторыя пра сацыялістычныя наркотыкі ўсё ж застаецца пад сумневам. З іншага боку, трэба візнаць, што ў Паўночнай Карэі яшчэ з 70-х гадоў мінулага стагоддзя працуе хімічны сектар па вытворчасці медыкаментаў, якія па свайму складу сапраўды належаць да сінтэтычных наркотыкаў.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.interfax.ru

# Слова за Меркель

Алег НОВІКАЎ

**Чаму зямельныя выбары ў Германіі могуць перазагрузіць нямецкую палітыку? На гэта і іншыя пытанні наконт палітычнага жыцця ФРГ адказвае берлінскі грамадскі актывіст Андрэ Арлоўскі.**

***— Усходненямецкая зямля Мекленбург — Пярэдняя Памеранія вельмі бедная адносна іншых рэгіёнаў ФРГ. Берлін — мультыкультурны мегаполіс, цалкам не падобны на іншыя куткі краіны. Чаму да выбараў у гэтых землях інтарэс па ўсёй краіне?***

— Можна назваць некалькі прычын. Перш за ўсё, гэта выбары, пасля якіх непасрэдна пачнецца выбарчая кампанія ў Бундэстаг, што адбудзецца ў 2017-м. На аналізе выбараў 4 і 18 верасня партыі змогуць будаваць канцэпцыі будучай кампаніі, вызначацца з кандыдатамі, думаць пра фарматы магчымых кааліцый. У гэтым плане, натуральна, больш за ўсё цікавы Берлін, дзе можа паўстаць кааліцыя сацыял-дэмакратаў, левых і «Зялёных», так званая Rot-Rot-Gruene. Такая схема ўраду шмат кім разглядаецца як формула для наступнага федэральнага кабінету.

***— Хто можа ўзначаліць падобны ўрад, і які замежны курс, перш за ўсё на Усходзе, ён можа праводзіць?***

— Пакуль Rot-Rot-Gruene існуе выключна ў праекце, хаця асноўным прэтэндэнтам на пасаду канцлера называецца лідар сацыял-дэмакратаў Зігмар Габрыэль. Паводле нефармальнага правіла нямецкай палітыкі, месца дырэктара МЗС дастаецца партыі — малодшаму партнёру па кааліцыі. Хутчэй за ўсё, такой партыяй будуць «Зялёныя», якія вельмі моцна крытыкуюць Маскву. Аднак цяпер усё будзе складаней праз прысутнасць у кабінеце левых, якія, наадварот, лічацца вядучымі лабістамі палітыкі Крамля ў Германіі. У дадатак партыя канцлера можа не мець большасці ў праўрадавай фракцыі, як было раней. Партыя эсдэкаў перажывае беспрэцэдэнтны крызіс даверу. За пяць гадоў яе рэйтынг скараціўся з 33 да 23 працэнтаў. Прычым, як сведчаць усе сацыялагічныя апытанні, яе былы электарат галоўным чынам мігруе ў шэрагі прыхільнікаў правых папулістаў з «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD). Яна, відавочна, будзе трэцяй партыяй як у Мекленбургу — Пярэдняй Памераніі, так і ў Берліне.

***— «Альтэрнатыва для Германіі», нягледзячы на высокія рэйтынгі, дасюль не мае партыйнай праграмы. Цяжка ўявіць, што падобная структура карыстаецца высокай падтрымкай сярод традыцыйна палітычна адукаваных і адказных бюргераў…***

— AfD — беспрэцэдэнтны праект у гісторыі ФРГ, і цяперашнія выбары яшчэ раз гэта засведчылі. Стымул падтрымкі правых папулістаў не мае лагічнай прыроды. Тут хутчэй эмоцыя — рэакцыйны пратэст супраць эліты, жаданне адпомсціць за свае праблемы. Такімі рэчамі, як пункты партыйнай праграмы, прыхільнікі «Альтэрнатывы для Германіі» практычна не цікавяцца. Добры прыклад — Петра Федэраў (Petra Federau), лідар выбарчага спісу партыі ў Мекленбургу. Сярод іншага, раней яна працавала «эскортнай дамай» (адна з формаў сексуальных паслуг). Аднак гэты, падавалася б, кампраметуючы момант не ўплывае на стаўленне да «Альтэрнатывы», якая можа атрымаць да 20% галасоў выбаршчыкаў. Праўда, гэта не значыць прыход Петры і яе аднапартыйцаў у зямельны ўрад. Гледзячы па ўсіх адзнаках, пры ўладзе застанецца вялікая кааліцыя эсдэкаў і хрысціянскіх дэмакратаў. Ствараць урад з «Альтэрнатывай для Германіі» тут лічыцца табу.

***— Высокая папулярнасць «Альтэрнатывы для Германіі» звязана з міграцыйнай палітыкай ураду Меркель. Аднак у тым жа Берліне прысутнасць арабскіх мігрантаў практычна не адчуваецца. Куды часцей можна пабачыць рускамоўных…***

— І гэта ўжо справа піяршчыкаў. Напрыклад, у Мекленбургу, дзе ўцекачоў з Сірыі таксама мала, агульны рост міграцыі звязваюць з падзеннем інтарэсу замежных турыстаў да мясцовых курортаў. Маўляў, нашто ехаць у Германію, дзе паўсюль арабскія мігранты. Можна прывязаць тэму міграцыі да росту крыміналу. На фоне паведамленняў у СМІ пра тэракты, якія там-сям арганізавалі ісламісты, ксенафобскія настроі знаходзяць глебу.

***— Апошнім часам шмат кажуць пра бунт, які ўзнялі аднапартыйцы супраць Ангелы Меркель праз яе непапулярную міграцыйную палітыку. Літаральна днямі сталі вядомыя вынікі апытання, паводле якіх большасць немцаў не жадае бачыць Меркель на пасадзе канцлера. Ці сапраўды Меркель збіраецца пайсці на пенсію?***

— Як вядома, стартавай пляцоўкай для палітычнай кар'еры Меркель была адна з выбарчых акруг у Мекленбургу — Пярэдняй Памераніі. Адсюль у 1990 годзе яна абралася ў Бундэстаг, дзе нечакана для ўсіх стала міністрам сям'і. Натуральна, тут вельмі ганарыліся такім земляком. І, натуральна, перад кожнымі выбарамі сябры мясцовага штабу Хрысціянска-Дэмакратычнага Саюзу намагаліся зрабіць Ангеле тур па зямлі з рэкламнымі мэтамі. Адбыўся такі тур і ў гэтым годзе. І трэба было бачыць, як халодна сустракае яе аўдыторыя, у тым ліку партыйны актыў.

Яны бачаць, што народ стаміўся ад Меркель, і мараць пра яе заяву наконт сыходу з палітыкі. Такі крок можа дапамагчы змяніць трэнд у грамадстве і на выбарах. Навіна пра тое, што кансерватары пойдуць на выбары–2017 з новым свежым лідарам, здольная перазагрузіць адносіны эсдэкаў і кансерватараў. Яшчэ ёсць час выратаваць цяперашнюю вялікую кааліцыю ў Берліне і, такім чынам, пахаваць спекуляцыі наконт абавязковага паўстання ўраду Rot-Rot-Gruene. Слова за Меркель.

# Шанец для ўзбекскай апазіцыі

Алег НОВІКАЎ

**78-гадовы Іслам Карымаў наўрад ці зможа далей кіраваць Узбекістанам. Гэта азначае, што ў Ташкента хутка з'явіцца новы лідар, хутчэй за ўсё — нехта з карымаўскага атачэння. Ці здольная мясцовая апазіцыя сарваць аперацыю «Пераемнік»?**



Фота www.tass.ru

За ўсе 26 гадоў знаходжання Карымава пры ўладзе афіцыёз ніводнага разу не пракаментаваў стан здароўя гаранта, хаця, напэўна, нешта ў гэтай сферы адбывалася. Адзін раз прэзідэнт знік з публікі аж на 20 дзён. У гэтым кантэксце афіцыйнае паведамленне пра інсульт і шпіталізацыю Карымава ад 27 жніўня сведчыла пра яго крытычны фізічны стан. Прэса дасюль гадае, ці стане Карымаў на ногі і ці жывы ён увогуле.

Яшчэ раней у медыя пачаўся актыўны адбор магчымага пераемніка. Найбольш часта гучыць імя цяперашняга прэм'ер-міністра Шаўката Мірзіёева. Робяць стаўкі і на віцэ-прэм'ера Рустама Азімава. Цікава, што практычна ніхто не разглядае ўсур'ёз фігуру старшыні ўзбекскага сената, які па Канстытуцыі ў падобных выпадках павінен узяць на сябе функцыі часовага кіраўніка дзяржавы.

У любым выпадку, хто б з вышэй згаданых асобаў ні дарваўся да дзяржаўнага штурвала, палітычны пейзаж ва Узбекістане наўрад ці зменіцца. Узбекістан, мяркуючы эксперты, працягне існаваць як аўтарытарная дзяржава свецкага тыпу. І ў выпадку прэзідэнцтва Мірзіёева магчыма пацяпленне ў адносінах з Крамлём, ад якога Карымаў заўжды намагаўся трымаць дыстанцыю.

Не чакаюць палітолагі і асаблівых збояў у механізме перадачы ўлады. Пра гэта сведчыць, у тым ліку, досвед суседняга Туркменістана, дзе пасля смерці Туркменбашы эліта хутка кансалідавалася вакол Гурбангулы Бердымухамедава. З іншага боку, Узбекістан — не Туркменістан. Нейкая апазіцыя ў краіне існуе. І, натуральна, сыход Карымава, на асобе якога фактычна трымаўся інстытут улады, дае апазіцыянерам гістарычны шанец, ці магчымасць як мінімум неяк нагадаць пра сябе.

Узбекская дэмакратычная супольнасць пачала фармавацца ў часы перабудовы ў выглядзе вельмі ідэалагічна стракатага руху «Бірлік». Пасля атрымання незалежнасці ў краіне нават былі зарэгістраваныя дэмакратычныя партыі, накшталт партыі «Эрк» або эсдэкаў. Нейкі час, пакуль аўтарытарны рэжым Карымава не стабілізаваўся, яго канкурэнты з розных кланаў і груповак актыўна шукалі дыялогу з дэмакратамі. У зеніце сваёй дзейнасці «Бірлік» налічваў 21 тысячу сябраў.

Аднак пагрозу для дэмакратаў складаў не толькі набіраючы моц карымаўскі аўтарытарызм. Феномен талібаў, якія напачатку 1990-х гадоў хутка паставілі пад кантроль Афганістан, уразіў увесь рэгіён. Некаторыя апазіцыянеры пабачылі ў талібах аптымальную арганізацыйна-ідэалагічную мадэль для ўзбекскай апазіцыі. Цікава, што яны нават не мелі нічога супраць знішчэння ў 1997 годзе талібамі груповкі афганскага палявога камандзіра Абдул-Рашыда Дустума — этнічнага ўзбека. Сам Дустум падчас тых падзеяў выжыў.

Тым не менш з таго часу ісламскі ўхіл ва ўзбекскай апазіцыі толькі ўзмацняўся. На сённяшні дзень гэта асобны ад дэмакратаў напрамак, які адкрыта робіць стаўку на радыкальныя сродкі барацьбы. У выпадку рэалізацыі праграмы ісламістаў, Узбекістан як дзяржава можа знікнуць і ператварыцца ў адміністрацыйную адзінку «умы» — глабальнай мусульманскай супольнасці. Трэба адзначыць, што фліртчасткі дэмакратаў з талібамі кепска паўплываў на дэмакратычны рух у цэлым. Нейкі час Захад проста шарахаўся ад апанентаў Карымава.

Што тычыцца дэмакратаў-узбекаў, то ў якасці альтэрнатывы Карымаву яны прапануюць нешта падобнае на Турцыю ў тыя часы, пакуль да ўлады не прыйшоў Эрдаган. Праўда, адкрыта агітавалі за свае ідэалы яны нядоўга. Ужо ў 1993 годзе апазіцыя страціла ўсялякую магчымасць для легальнай дзейнасці. Спачатку дзейнасць «Бірліка», па рашэнні мясцовага Мінюста, была прыпыненая на тры месяцы, а затым яго наогул пазбавілі рэгістрацыі. Тое ж самае здарылася з партыяй «Эрк».

Пасля зачысткі пачатку 1990-х гадоў пачаўся сыход апазіцыі за мяжу, дзе сёння дзейнічаюць яе асноўныя цэнтры. Дэмакратычныя актывісты, акрамя таго, што займаюцца інфармацыйнай працай, намагаюцца падтрымліваць свой аўтарытэт на радзіме за кошт кантактаў з вялікімі дзяржавамі. Напрыклад, пасля пачатку інтэрвенцыі NATO ў Афганістан, дысідэнты заклікалі Вашынгтон таксама зрынуць Карымава. Праз пяць гадоў тая ж груповка накіравала зварот на імя Уладзіміра Пуціна з заклікам адмовіцца ад супрацоўніцтва з Карымавым, робячы стаўку на апазіцыю.

Асобнай вяхой у гісторыі ўзбекскіх дысідэнтаў з'яўляецца 2005 год, калі выбухнула стыхійнае антыпаліцэйскае паўстанне ў Андзіжане, брутальна здушанае ўладай. Апазіцыянеры, якія дапамагалі вывучаць дэталі трагедыі, у якой загінула каля 300 чалавек, адразу сталі мішэнню спецслужбаў. Тады дзейнасць апазіцыі была абмежавана драконаўскімі законамі. Так, для правядзення нейкай публічнай сустрэчы ва Узбекістане яе арганізатары павінны падаць у паліцыю спіс удзельнікаў мерапрыемства. Апошні раз дэмакраты далі пра сябе ведаць у 2014 годзе, калі спрабавалі пад выглядам збору землякоў правесці канферэнцыю ў сталіцы. Нягледзячы на моцную канспірацыю, усе ўдзельнікі былі затрыманыя яшчэ на падыходах да месца сустрэчы.

Большасць аналітыкаў пагаджаецца з тым, што арганізацыйная слабасць і адсутнасць уплывовых медыя ўнутры краіны выракаюць дэмакратаў на тое, каб быць статыстамі цяперашняй аперацыі «Пераемнік». З іншага боку, яшчэ ў 2013 годзе адным з апазіцыйных цэнтраў быў распрацаваны план дзеянняў апазіцыі ў выпадку пагаршэння здароўя Карымава. Аўтары разглядалі тры сцэнары вяртання дэмакратычнай апазіцыі ў публічнае палітычнае жыццё. Найбольш перспектыўным лічыцца гульня на вайне паміж кланамі чыноўнікаў, якая, як лічаць дэмакраты, можа ў цяперашняй сітуацыі выбухнуць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Джэймс Пеціт

Пасол ЗША ў Кішынёве зрабіў заяву, якая ўзарвала малдаўскае грамадства. Дыпламат, у прыватнасці, адзначыў, што Малдова — не Румынія, і адкінуў магчымасць іх аб'яднання.

Тырада амерыканца аказалася тарпедай па ўраду і частцы праеўрапейскай партыі. У апошні час сярод іх сяброў дамінуе ідэя пра тое, што незалежнасць Малдовы не атрымалася, і адзінае выйсце — шукаць шляхі цеснага збліжэння з Бухарэстам. Нават прызначаныя канкрэтныя тэрміны ўваходу краіны ў склад Румыніі: праз два гады, калі споўніцца сто гадоў далучэння Малдовы да Румыніі ў 1918-м.

Адсюль нядзіўная жорсткая рэакцыя юніяністаў на словы Пеціта. Старшыня Ліберальнай партыі Міхай Гімпу абвінавачваў дыпламата ў тым, што ён зрабіў замах на права грамадзян самастойна вызначаць свой лёс. У сваю чаргу, прарасійскія партыі, якія сітуацыйна выступаюць за захаванне незалежнай Малдовы, святкуюць перамогу. Калі верыць ім, заявы амбасадара кажуць пра змену стасункаў з Расіяй на фоне падзей у Сірыі, а таксама пераасэнсаванне таго, што адбылося ва Украіне. Некаторыя з іх увогуле абяцаюць забараніць ідэалогію аб'яднання Малдовы і Румыніі пасля прыходу да ўлады.

Нарэшце, незалежныя эксперты раяць разглядаць заяву Пеціта ў кантэксце падтрымкі дыпламатычнай традыцыі ЗША. У 1918-м Злучаныя Штаты не падтрымалі далучэнне Бесарабіі (цяперашняя Малдова плюс частка Адэскай вобласці Украіны) да Румыніі.



### Абу Мухамад аль-Аднані

Прэс-сакратар груповкі «Ісламская дзяржава» быў забіты 30 жніўня ў сельскай мясцовасці Алепа, калі турэцкія ваенныя і курдскія сілы атакавалі раёны, падкантрольныя халіфату.

Смерць фанатыка цяжка пераацаніць для паспяховага развіцця антытэрарыстычнай аперацыі. Нябожчык лічыўся галоўным прапагандыстам «Ісламскай дзяржавы», быў вядомы выступамі праз інтэрнэт з заклікамі да адзінкавых тэрарыстычных нападаў на прадстаўнікоў заходніх краін. На думку заходніх спецслужбаў, выступы Абу Мухамада, якія выкладаліся ў сеціва, сапраўды мелі моцны ўплыў на мусульманскую моладзь на Захадзе, правакуючы яе на забойствы і тэракты. Нездарма за любую інфармацыю пра месцазнаходжанне аль-Аднані Дзярждэпартамент ЗША прызначыў узнагароду ў памеры 5 мільёнаў долараў.

Ліквідацыя чалавека, які лічыўся другім у кіраўніцтве груповкі, будзе спрыяць яе хуткаму калапсу. З іншага боку, у заходняй прэсе ўсё больш публікацый наконт таго, што ліквідацыя «Ісламскай дзяржавы» будзе азначаць, што вайна з рэлігійным экстрэмізмам проста пяройдзе ў новую фазу, калі на месца аднаго цэнтру супрацьву будзе некалькі. І не факт, што знішчыць іх будзе проста.

### Сяргей Міронаў



Лідар расійскай левацэнтрысцкай партыі «Справядлівая Расія», сябраў якой у побыце часта называюць «эсэрамі», заявіў, што ў выпадку праходжання ў Думы яго партыя абвесціць крэдытную амністыю для расіян, якія маюць пазыкі ў банках, а ўсе банкі ў Расіі ўвогуле нацыяналізуюць.

Акрамя таго, намагаючыся абскакаць канкурэнтаў на патрыятычнай глебе, ён выступіў з праектам паправак да закону пра недзяржаўныя арганізацыі. Сярод іншага фактычна прапануецца пазбавіць права выхоўваць дзяцей і моладзь прадстаўнікам генерацыі 90-х гадоў, якія, па словах Міронава, выхоўвалася на ліберальных каштоўнасцях і «ілжывых карыслівых ідэалах, у якіх не было месца ні духоўнаму развіццю, ні патрыятычным пачуццям».

Нягледзячы на ўльтрапатрыятычны пафас і папулізм Міронава, большасць экспертаў не вераць, што гэта дапаможа «эсэрам» застацца ў Думе. На іх думку, асноўная памылка была зробленая ў 2014-м, калі партыя, якая мела нейкі апазіцыйны імідж, цалкам падтрымала Пуціна. Усё ідзе да таго, што «эсэры» не трапяць у Думу па выніках парламенцкіх выбараў 18 верасня. Адсюль і фантастычныя ўчынкі, заявы і прапановы Міронава.

Калі верыць прэсе, больш-менш вядомыя партыйцы ўжо думаюць, куды падацца пасля выбараў.

# Кобрынскія трагедыі 1939 года

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 2008 годзе ў беларускім Кобрыне і яго ваколіцах былі выяўленыя і эксгумаваныя парэшткі салдат Войска Польскага, а таксама супрацоўнікаў польскай дзяржаўнай паліцыі, якія загінулі ў час вераснёўскай кампаніі 1939 года. Хто знайшоў апошні прытулак у кобрынскай зямлі і ў якіх абставінах загінулі гэтыя людзі?**


Мемарыял у Кобрыне


Немцы разглядаюць савецкія браневікі, Заходняя Беларусь, верасень 1939 года

## «Палешукі» рыхтуюцца да абароны

Другая сусветная вайна прыйшла ў Кобрын 1 верасня 1939 года. «Памятаю, мы пайшлі з сябрам пасвіць кароў. Бачым, па чыгунцы ідзе цягнік Пінск—Кобрын. Я ведаў, бо мой бацька працаваў на чыгунцы. Чуем гул самалёта, а хутка ў небе з'явілася двухматорная машына і пачала зніжацца. З яе нешта пападала. Мы пабеглі паглядзець, што ж там з самалёта выкінулі. А гэта бомбы. Выбухі пачаліся. Немец разбамбіў цягнік, а потым пайшоў на Кобрын і скінуў некалькі бомб на горад. Адна з іх упала на школу імя Юзафа Пілсудскага — зараз гэта гімназія № 2. Будынак добротны быў. Да вайны людзі казалі, што на будаўніцтва школы грошы выдаткаваў сам Пілсудскі», — узгадвае тыя падзеі ветэран Другой сусветнай вайны, кавалер савецкіх ордэнаў Леніна і Айчыннай вайны І ступені, жыхар Кобрына Сцяпан Мікалаевіч Цімашук.

8 верасня 1939 года камандуючы ІХ корпуснай акругай брыгадны генерал Францішак Клееберг атрымаў ад галоўнакамандуючага польскай арміі, маршала Эдварда Рыдз-Сміглы загад сфармаваць пяхотную дывізію з падраздзяленняў, якія знаходзіліся ў запасных пунктах. Так пачалася гісторыя дывізіі «Кобрын» пад камандаваннем палкоўніка Адама Эплера. У яе склад увайшлі выведвальная рота, узвод веласіпедыстаў, узвод кавалерыі, амаль роўны па колькасці эскадрону, рота цяжкіх кулямётаў, тры конныя абозы (збройны, транспартны, санітарны), палявы шпіталь, два батальёны 82-га пяхотнага палка, рэзервовыя часткі 83-га пяхотнага палка, падраздзяленні 84-га пяхотнага палка.

У Залессі пад Кобрынам быў сфармаваны 5-ы дывізіён лёгкай артылерыі, які складаўся з чатырох 75-міліметровых гармат і шасці 100-міліметровых гаўбіц. У склад дывізіі ўліліся часткі народнага апалчэння. Пазней дывізію «Кобрын» перайменавалі ў 60-ю рэзервовую дывізію пяхоты. Арганізацыйнай гатоўнасці злучэнне дасягнула 14 верасня 1939 года. Менавіта гэтыя часткі і прынялі ўдзел у абароне Кобрына ад нацыстаў. «Шмат афіцэраў, якія служылі ў Кобрыне, раней служылі ў войску Булак-Балаховіча. Мясцовыя іх так і называлі: «балахоўцы». Смелыя хлопцы былі. Дарэчы, адным з камандзіраў палка быў таксама «балаховец» Юзаф Верабей», — узгадвае Сцяпан Мікалаевіч.

Кобрын быў другім па значнасці чыгуначным вузлом Палескага ваяводства. Тут праходзіла чыгунка Берасце—Пінск—Лунінец, а таксама важныя аўтамабільныя дарогі на Баранавічы і Ковель. У сувязі з набліжэннем нямецкіх войскаў у ноч з 13 на 14 верасня генерал Клееберг перанёс штаб абароны Палесся ў Пінск. Дывізія «Кобрын» атрымала заданне арганізаваць абарону на захадзе ў раёне Відамлі і на ўсходзе ў раёне Пружанаў. Асаблівая ўвага надавалася пераправам на Канале каралевы Боны і каля ракі Мухавец, у раёне чыгуначнага моста.

## Змагацца да апошняга

Першую атаку разведбата 3-й танкавай дывізіі вермахта абаронцы Кобрына адбілі 14 верасня. У той жа дзень польскія пазіцыі ўзмацніліся супрацьтанкавай батарэяй. 17 верасня на ўскраіне Кобрына з'явілася нямецкая мотапяхота і танкі. Хутка на іх абрынуўся град куль і снарадаў: са сваіх пазіцый адкрылі агонь пяхотнікі 83-га палка. Польскім артылерыстам удалося падбіць некалькі нямецкіх танкаў. 18 верасня пасля моцнай артпадрыхтоўкі 2-я нямецкая матарызаваная дывізія пачала новы наступ на горад. І зноў жаўнеры Войска Польскага падбілі некалькі танкаў і бронемашын праціўніка, а пасля перайшлі ў контратаку. Немцы вымушаны былі адступіць.

Загінулых абаронцаў Кобрына мясцовыя жыхары пахавалі ў брацкіх магілах на тэрыторыі горада. Геній германскіх танкавых атак Хайнц Гудэрыян у сваіх мемуарах «Нататкі салдата» пра тыя падзеі напісаў, што яго часткам «давялося весці цяжкія баі пад Кобрынам». Немцы панеслі значныя страты: некалькі сотняў забітых, велізарная колькасць параненых і мноства знішчанай тэхнікі. Зыход баёў за палескі горад вырашыў распачаты ў ноч з 16 на 17 верасня «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». У гэтых умовах далейшая абарона Кобрына была бессэнсоўнай, польскія падраздзяленні пачалі адступаць на Поўдзень. А з усходу да яго ўжо ішлі савецкія часткі.

«Немцы, калі ў Кобрын увайшлі, вялі сябе ціха. Адзін нямецкі жаўнер бацьку сказаў, што яны хутка адыдуць, а сюды прыйдуць бальшавікі. Аднойчы, памятаю, мы працавалі ў полі. Па дарозе едзе нямецкая адкрытая машына. У ёй шафёр і яшчэ тры чалавекі. З другога боку савецкі танк пад'язджае. Адтуль выходзіць танкіст у камбінезоне і падыходзіць да немцаў. Павіталіся, казырнулі. Пагаварылі, пасмяяліся. А гэта быў Крывашэін, савецкі камбрыг, і Гудэрыян. Яны па-французску паміж сабой гаварылі. Пазней у Берасці, яны яшчэ і парад сумесны зрабілі», — распавядае Сцяпан Цімашук.

Параненых у баях з немцамі польскіх жаўнераў збіралі харцэры. Вось што ўзгадвала адна з іх:

«Разам з групай знаёмых настаўніц мы пайшлі на поле бітвы. Перад горадам было вялікае поле канюшыны, дзе нашы жаўнеры мелі свае пазіцыі. На вуліцы стаяў нямецкі жаўнер, якому мы заявілі аб жаданні дапамагчы польскім параненым. Немец дазволіў і выдаў нам пропуск. Разам з Вандай Альшанкай мы падышлі да жаўнера, які ляжаў у лужыне крыві. Ён быў жывы. Цяжка дыхаў, з рота ішла крывавая пена. Мы паклалі яго на коўдру і аднеслі ў шпіталь на вуліцы Легіёнаў. За намі ішлі іншыя пані, якія неслі параненых». Іншая сведка апісвала тыя падзеі: «Баі былі жудасныя. Раніцай, калі выбухі спыніліся, мы пайшлі на поле бітвы. Немцы сваіх забітых і параненых пазбіралі, а нашыя ляжалі. Нам удалося забраць толькі некалькіх параненых і адцягнуць іх у падвал. [...] У хуткім часе з'явіліся саветы. Іх афіцэры павіталіся з немцамі, паразмаўлялі, пасля чаго жаўнеры вермахта паехалі ў бок Берасця. А саветы засталіся. [...] Харцэркі ў цывільным адзенні пачалі хадзіць да нашых параненых у шпіталь, але праз некалькі тыдняў польскія параненыя адтуль зніклі. Саветы закопвалі іх на палях».

## Гісторыя аднаго героя

Адным з тых, хто абараняў Кобрын у верасні 1939 года, быў капрал Войска Польскага Эварыст Зайкоўскі. У 1939 годзе яму было 28 гадоў. «У нас засталося агульнае фота, зробленае ў жніўні 1939 года. Бацька пасадзіў мяне на плот, а сам стаў побач. Праз некалькі дзён ён пойдзе ў войска», — узгадвае дачка жаўнера Хана Цыганчук-Пракопчык, якая сёння жыве ў Польшчы.

Хлопец паходзіў з багатай сям'і. Да вайны Эварыст скончыў настаўніцкія курсы ў Варшаве і Школу кадэтаў у Замбраве. Калі Германія напала на Польшчу, то бацька Зайкоўскага прапанаваў сыну выехаць з Польшчы, але Эварыст адказаў: калі ўсе так з'едуць, хто ж будзе бараніць Радзіму? «Ён не памахаў нам. Проста павярнуўся і пайшоў. А я бегла за ім і крычала: «Тата, тата!». Падала, падымалася і далей бегла. Што адчувала яго беднае сэрца, калі ён чуў мой плач? Пэўна адчуваў, што яго дзіця стане сіратой», — узгадвае пані Хана.

Пазней жонка Зайкоўскага з'ехала ў Львоў. У лютым 1941 года блізкія Эварыста Зайкоўскага атрымалі ад ксяндза Яна Вольскага з Кобрына ліст, у якім паведамлялася, што капрал загінуў 17 верасня 1939 года і пахаваны ў брацкай магіле. Ксёндз знайшоў у кішэні жаўнера пасведчанне настаўніка, па якім і ідэнтыфікаваў забітага. А ў 2008-м беларускія пошукавікі знайшлі жэтон Зайкоўскага. Побач з ім былі пахаваны і іншыя жаўнеры Войска Польскага, якія загінулі пры абароне Кобрына ў верасні 1939 года.

## Ахвяры злачынцаў

Яшчэ да эксгумацыі парэшткаў ля Петрапаўлаўскай царквы ў Кобрыне былі праведзены пошукавыя працы ў вёсцы Падзяменне, дзе было знойдзена масавае пахаванне расстраляных польскіх грамадзян. Справа ў тым, што ў верасні 1939 года пад Кобрынам дзейнічаў «атрад самаабароны» Савы Дранюка, які захопліваў польскіх вайскоўцаў, паліцэйскіх, грамадзянскіх асоб. Гэтых людзей пасля без суда і следства расстралялі. Характар раненняў сведчыць пра тое, што няшчасных ставілі на калені перад ямай і стралялі зверху (у большасці расстраляных былі знойдзены выхадныя адтуліны куль у вобласці таза).

Сярод забытых былі парэшткі чалавека, на адзенні якога быў значок у выглядзе сцягу Даніі. Рука гэтага чалавека была прыкаваная наручнікам да яшчэ адной ахвяры. Ці гэта сведчыць, што ў верасні 1939 года ў Падзяменні быў забіты замежны грамадзянін? Магчыма.

Нарэшце 8 гадоў таму пад Кобрынам пошукавікі знайшлі парэшткі брыгаднага генерала Войска Польскага Станіслава Салагуб-Давойна. У міжваенны час ён быў камандзірам 61-га пяхотнага палка, а пазней 4-й дывізіі пяхоты ў Торуне. З 1927 па 1935 гады ён камандаваў 12-й пяхотнай дывізіяй ў Тарнопалі. У 1936 годзе сышоў на пенсію і кожнае лета праводзіў у маёнтку Зёлава, якое належала яго жонцы, князёўне Вользе Даўгарукай. 22 верасня (па іншых дадзеных, 26 верасня) 1939 года генерал Салагуб-Давойна быў застрэлены савецкім афіцэрам.


Генерал Станіслаў Салагуб-Давойна

Па іншай версіі (паводле ўспамінаў яго жонкі) генерал быў забіты мясцовымі сялянамі, калі тыя спрабавалі абрабаваць маёнтак Салагуб-Давойна. Як сцвярджаюць польскія даследчыкі, першае следства па справе забойства генерала правялі... супрацоўнікі нямецкага гестапа ў 1941 годзе. Тады ж былі арыштаваныя забойцы і пасля допытаў іх расстралялі.

У верасні 2008 года парэшткі ахвяр верасня 1939 года, знойдзеныя беларускімі і польскімі пошукавікамі, былі ўрачыста перапахаваны на могілках ля Касцёла Успення Прасвятой Дзевы Марыі ў Кобрыне.

# Фэст на Крапіўне: чвэрць стагоддзя з перапынкамі

Паліна СЦЕПАНЕНКА

**Крапівенскае поле вядомае як поле Аршанскай бітвы (8 верасня 1514 года). Але ёсць яшчэ адна не менш знакавая падзея, звязанае з гэтым месцам. У верасні 1991 года на Крапівенскім полі адбыўся першы фестываль аўтарскай песні і паэзіі. Сёлета яму спаўняецца 25 гадоў. Як тое было, узгадвае нязменны арганізатар і каардынатар фэсту — Юрась Копцік.**



Мікола Разумаў, Андрэй Мельнікаў, Серж Мінскевіч, Ігар Мухін, Вадзім Болбас, Пушкіны Алесь і Яніна, Ларыса Кудраўцава, Аляхновічы — Андрэй і Наталля

— Ідэя правядзення фестывалю належыць барду Андрэю Мельнікаву. Некалі ён прыйшоў да мяне ў рэдакцыю «Аршанскай газеты» і запытаў: «Слухай, а дзе была тая Аршанская бітва?». Я кажу: «На Крапіўне». А ён: «Слухай, давай з’ездзім». З’ездзілі, яму спадабалася. У 1989 годзе аршанскім краязнаўцам і калекцыянерам Алесем Сярожкіным там ужо быў пастаўлены невялікі мемарыяльны шасціканцовы крыж — на ўзвышшы правага берагу ракі Крапіўны, каля дарогі Орша — Дуброўна.

І мы вырашылі, што на правым беразе Крапіўны, пры самым упадзенні ў Дняпро, ёсць зручная, утульная лугавінка, дзе можна праводзіць фестываль. Вырашылі — будзем арыентавацца на канец жніўня. А ў жніўні 1991 года ў Маскве здарыўся путч. І мы думалі: што рабіць? Калі гэты путч удасца, і да ўлады прыйдзе ГКЧП (цяпер ужо мала каму зразумелая абрэвіятура), то ні пра які фестываль і думаць немагчыма. Каб яшчэ самім хавацца не давялося. Пакуль мы так думалі, путч праваліўся, але час быў страчаны. Позна было даваць ужо шырокую інфармацыю пра фестываль.

Абвестка пра фестываль у газеце «Чырвоная змена», дзякуючы Вітаўту Мартыненку, які там працаваў, з’явілася літаральна за пару дзён да мерапрыемства. Таму на першы фэст прыехала ўсяго недзе чалавек 12. Разам з выканаўцамі прыехала маладая, прыгожая і таленавітая журналістка Белдзяржтэлерадыё Надзея Кудрэйка. Апрача Андрэя Мельнікава, прыехалі Зміцер Сідаровіч, Лера Сом і Вольга Акуліч. І, як тады жартавалі, на кожнага выканаўцу быў персанальны слухач. Апаратуру і «паходную» сцэну даў тады Мікалай Разумаў, дзякуючы таму, што ён быў старшынёй прафкаму Інструментальнага заводу.

***— Быў год, калі фестываль ладзіўся на афіцыйным узроўні і асвятляўся ў дзяржаўных СМІ…***

— Гэта было ў 1992 годзе: было шмат людзей, прыехаў аўтобус Белдзяржтэлерадыё з гуказапісваючай апаратурай. Выступалі Андрэй Мельнікаў, Зміцер Сідаровіч, Лера Сом, Ігар Мухін і Віктар Шалкевіч.

У 1993 годзе ўсё ўвайшло ў сваю каляіну, людзі з’язджаліся, аддзел культуры райвыканкама нават аплачваў аўтобусы. І гэтыя аўтобусы давозілі гледачоў ад прывакзальнай плошчы да Крапівенскага поля.

У 1994 годзе фестывалю не было. Гэта былі 480-я ўгодкі бітвы, БНФ усё ўзяў у свае рукі. Прыкацілі два аўтобусы з Мінску, і замест фестывалю прайшла звычайная партыйная імпрэза. Пасля бразнулі дзвярыма ў аўтобусе і з’ехалі. Увечары ў Оршы адбыўся канцэрт беларускай аўтарскай песні — у Доме культуры машынабудаўнікоў выступалі Мельнікаў і Мухін. У залі было 14 чалавек.

У 1995 годзе праз фірму «Дайнова» мы атрымалі спонсарскую дапамогу. Надрукавалі 300 плакатаў у Віцебскай друкарні, арандавалі добрую апаратуру, абслугоўвалі яе тэхнікі з гарадскога дому культуры. У гэты год на фэсце спяваў Алесь Камоцкі — класік беларускай аўтарскай песні. Фестываль доўжыўся тры дні. У пятніцу пачынаўся — у нядзелю заканчваўся. Але скончылася дрэнна…

***— 1995 год быў пераломным для фестывалю…***

— Так, я хацеў правесці фестываль, не падладжваючыся пад партыйныя сцэнары і мітынгі. У мяне быў узор — «Басовішча». Мне падабалася сама форма правядзення: усё пачынаецца ўвечары ў пятніцу, дзве ночы працягваецца, каб за нядзелю людзі маглі адпачыць — выспацца і паспець на працу. Я вырашыў: а чаму б не рабіць такое «Басовішча» на Крапівенскім полі? Усе ўмовы ёсць. Фірма «Дайнова» дала нам 100 (сто!) долараў — на ўсе выдаткі. У той час гэтага хапала. Мы арандавалі выдатную апаратуру.

Але з самага пачатку было адчуванне, што нешта кепскае можа адбыцца. Таму я прасіў Беларускае згуртаванне вайскоўцаў прадставіць ахову, мне абяцалі, але нічога не зрабілі. З’явіліся на полі п’яныя падлеткі з Оршы, якія ладзілі бойкі і крадзяжы, адзін з іх паехаў у Оршу (можа па дарозе яшчэ якую бойку ўчыніў) і памёр ужо ў ноч з суботы на нядзелю ў сябе дома. Калі пачалося следства, высветлілася, што ён з 14 гадоў стаяў на ўліку ў міліцыі. У нядзелю на Крапівенскае поле прыехала міліцыя забіраць быццам бы вінаватых у смерці гэтага падлетка…

Пасля гэтай смерці ўсе афіцыйныя газеты — «Знамя юности», «Советская Белоруссия», «Витебский рабочий», якія да гэтага ніводнага слова не пісалі пра фестываль, нібыта з ланцугу сарваліся і пачалі друкаваць артыкулы пад такімі кідкімі загалоўкамі: «Смерть под бело-красно-белым флагом», «На Крапивенском поле вновь убивают людей». Зразумела, што ў такіх умовах ніякага фестывалю быць не магло.

Следства не даказала датычнасці ўдзельнікаў фестывалю да смерці падлетка. Справа была закрытая. Але пасля 1995 года тры гады фестывалю практычна не было. У 1996 годзе збіраліся ў знаёмага — у яго лецішча якраз насупраць, на беразе Дняпра. У 1997 годзе збіраліся на Крапівенскім полі, але было літаральна 7 чалавек — я, Андрэй Мельнікаў, мастак Алесь Пушкін… Аднак фестывалю не было, пакуль цягнулася следства па той справе.

**У 1999 годзе ў Воршы ўтварыўся культурна-асветніцкі цэнтр імя Караткевіча. З гэтага часу пайшла традыцыя праводзіць не Фестываль беларускай аўтарскай песні, а Свята Беларускай вайсковай славы**

***— Але фестываль аднавіўся…***

— У 1999 годзе ў Воршы ўтварыўся культурна-асветніцкі цэнтр імя Караткевіча, завадатарамі якога былі Генадзь Шэпелеў і Ларыса Кудраўцава. З гэтага часу пайшла традыцыя праводзіць не Фестываль беларускай аўтарскай песні, а Свята Беларускай вайсковай славы. У 2000–2001 гадах на Крапівенскім полі зноў пачалі збірацца сотні гледачоў. Прыязджалі рыцарскія гурты — наладжвалі рэканструкцыі. Паціху-патроху традыцыя аднавілася. Апошні нармальны фестываль прайшоў у 2006 годзе.

***— Наступны год вядомы масавымі затрыманнямі на Крапівенскім полі…***

— У 2007-м людзей на фестывалі было шмат, вось нехта і прыйшоў да высновы, што традыцыю трэба спыняць. Мяне выклікалі ў міліцыю і прапанавалі падпісаць паперу, што ў выступах на фестывалі «не будзе ніякай палітыкі». Я, зразумела, адмовіўся. Пасля на фэст спусцілі ўсіх сабак — ужо за два дні да мерапрыемства на месцы яго правядзення ўжо была міліцыя, паставілі загародкі, пікеты, машыны. Стаялі патрулі. Тлумачылі, што да іх паступіў ананімны званок: у Дняпры насупраць Крапіўны знайшлі снарад. Сапёры прыехалі толькі ў нядзелю. Доўга нешта шукалі, але, як і трэба было чакаць, ніякага снараду не знайшлі.

Фестывалю не было. Быў Віцебскі АМАП у поўным складзе, уся аршанская і дубровенская міліцыя была паднятая па трывозе і кінутая на Крапівенскае поле. Усюды стаяла міліцыя, людзей хапалі, кідалі ў аўтазакі і везлі ў раённы аддзел міліцыі. Было затрымана больш за 100 чалавек. Тое самае паўтарылася ў 2009-м, тады людзей вывозілі пад Коханава і выкідвалі пад дождж ноччу ў чыстым полі.

***

У 2010 годзе міліцыянты перакрылі пад’езды да Крапівенскага поля, не дазваляючы праехаць да вёскі Гацькаўшчына, дзе звычайна адбывалася імпрэза. А затым пачалі затрымліваць усіх, хто ішоў пешкі ў кірунку да альтэрнатыўнага месца, абранага непадалёк. Пад забаронай фэст заставаўся і ў наступныя гады. Нават у 2014-м, калі адзначалася 500-годдзе бітвы.



Тым не менш штогод людзі прыязджаюць пад Оршу. І хай гэта ўжо не тое традыцыйнае месца пры ўпадзенні Крапіўны ў Дняпро, і аўдыторыя злічваецца не сотнямі, як некалі, а некалькімі дзясяткамі чалавек, і ўсё гэта больш нагадвае «кватэрнік» на прыродзе, але гэта быў усё той жа фестываль. Гэткі культурна-гуманітарны супраціў татальнай дэнацыялізацыі Беларусі.

**Фота Андрэя Аляхновіча**

# Па сцяжынках Уладзіміра Караткевіча

Лявон ЦЕЛЕШ

**Разам з беларускім фатографам і мастаком Уладзімірам Цвірко мы здзейснілі займальную вандроўку — наведалі ўлюбёныя мясціны беларускіх пісьменнікаў.**

Падарожжа распачалося з райцэнтра Карма — пасёлка, які вядомы з XVII стагоддзя. Тут нядрэнна захаваліся гаспадарчыя будынкі XIX стагоддзя, якія належалі Быкоўскім. Але ад некалі прыгожай цаглянай Свята-Мікалаеўскай царквы, пабудаванай у 1831 годзе, засталіся руіны.

Далей наш маршрут пралягаў на Рагачоўшчыну, з якой звязаны жыццёвыя і творчыя шляхі такіх пісьменнікаў Беларусі, як Ядвігін Ш. (нарадзіўся ў былым Рагачоўскім павеце), Андрэй Макаёнак, Уладзімір Караткевіч, Міхась Лынькоў і яго брат Рыгор Суніца, Мікола Сурначоў, Мікола Купрэеў, Анатоль Вярцінскі, Алена Васілевіч, Васіль Ткачоў.





Рагачоў. Магіла Тамаша Грыневіча, удзельніка паўстання 1863–1864 гадоў, дальняга сваяка Уладзіміра Караткевіча



Палац у вёсцы Красны Бераг

У вёсцы Доўск Рагачоўскага раёна ўражвае сваёй прыгажосцю царква Покрыва Прасвятой Багародзіцы, якая была пабудавана ў 1863–1864 гадах у рэтраспектыўна-рускім стылі. Вёска Доўск — буйны вузел аўтамабільных дарог, праз яе праходзяць трасы Магілёў — Гомель і Бабруйск — Слаўгарад. Вядома, што ў XIX стагоддзі праз Доўск неаднаразова праязджалі паэты Аляксандр Пушкін і Тарас Шаўчэнка. А па Кацярынінскім шляху, які некалі злучаў Маскву і Варшаву, праз Доўск праязджала і расійская імператрыца Кацярына.

Па дарозе на Рагачоў мы не маглі прамінуць возера з дзівосналй назвай Святое, якое знаходзіцца ля вёскі Турск. На беразе мясцовыя жыхары паведалі нам легенду, што калісьці тут узвышалася царква, якая правалілася пад зямлю, і на яе месцы з'явілася возера. Цікава, як гэта ў свой час замшэлыя атэісты не назвалі возера Святое імем якога-небудзь камуністычнага дзеяча? Хапіла ж у іх розуму перайменаваць вышэйшую кропку Беларусі — гару Святую — у гару Дзяржынскую.

У наваколлі вёскі Хадасовічы мы не змаглі адшукаць старажытныя курганы, над якімі раней папрацавалі даследчыкі. Уладзімір Цвірко ведаў, што недзе тут, побач з вёскай, знаходзіцца нямецкія могілкі. Блуканні па сасновым лесе прывялі нас да вялізнай паляны, на якой мы налічылі больш за 300 драўляных крыжоў. На крыжах — надпісы з імёнамі і прозвішчамі нябожчыкаў на нямецкай мове і даты нараджэння і смерці. Амаль усім ім было па 20 гадоў.

Вядома, што на Рагачоўшчыне ў часы вайны ішлі жорсткія баі. Паблізу Хадасовічаў засталося шмат безыменных магіл. Мясцовыя ўлады і грамадзяне Германіі знайшлі парэшткі салдат і перапахавалі іх. У гэтых мясцінах былі магілы не толькі нямецкіх, але савецкіх салдат, так што гэтыя могілкі атрымаліся інтэрнацыянальнымі. На іх адкрыццё прыязджаў пасол Германіі ў Беларусі спадар Хорст Вінкельман. Мінулая вайна і сёння трымае нас у сваіх абдымках…

Пасля мы трапілі ў маляўнічую вёску Кісцяні, што месціцца на беразе Дняпра і ўпершыню згадваецца ў XVI стагоддзі. Уражвае прыгажосцю старажытны ландшафтны парк, закладзены ў XVIII стагоддзі. Некалі тут быў прыгожы замак, дзейнічаў бровар, школа для сялянскіх дзетак, дзёгцевы завод, вадзяны млын, руіны якога мы даследавалі, існавала прыстань — прыгожая мясціна, якую не хацелася пакідаць. Але нас чакаў старажытны Рагачоў.

Рагачоў упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1142 годзе. У горадзе шмат розных архітэктурных помнікаў: будынкі былой земскай управы, былой дваранскай вучэльні, касцёл святога Антонія Падуанскага, тры цагляныя капліцы на праваслаўных могілках. У горадзе нам давялося аб'язджаць шэраг будаўніча-рамонтных пляцовак — вялася інтэнсіўная работа па добраўпарадкаванні горада, каб годна сустрэць шматлікіх гасцей, якія наведаюць горад на Дзень беларускага пісьменства.

Горад адметны яшчэ і тым, што ў ім падоўгу жыў і напісаў свае самыя лепшыя творы выдатны беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Канешне, нарадзіўся ён у Оршы, жыў у Мінску, але на адпачынак заўсёды прыязджаў да свайго дзядулі Васіля, які жыў у драўляным доме на цiхай вуліцы імя Чкалава. Сёння гэта вуліца носіць імя Уладзіміра Караткевіча. Нам не давялося шукаць яе доўга, жыхары горада добра ведаюць яе. Дарэчы, сюды ў госці да Караткевіча прыязджаў яго сябра народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.

Побач з домам дзеда Васіля ляжыць вялізны помнік — валун з выявай пісьменніка. Магчыма, з цягам часу гэтаму дому будзе нададзены статус музея Караткевіча, а на адной з вуліц Рагачова з'явіцца яму помнік.

Пісьменнік вельмі любіў наведваць маляўнічыя куточкі Рагачоўшчыны, часта выбіраўся на рыбалку на Дняпро. Яго дзед Грыневіч, бацька маці пісьменніка, Надзеі Васільеўны, стаў прататыпам аднаго з герояў рамана «Каласы пад сярпом тваім». У «Ладдзі роспачы» пісьменнік апісваў сярэднявечны Рагачоў і яго жыхароў, а дзеянне аповесці «Сівая легенда» адбываецца ў замку маёнтка Кісцяні. У сям'і Караткевічаў таксама захавалася паданне пра Тамаша Грыневіча, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў, які быў расстраляны царскімі расійскімі ўладамі ў Рагачове. Тамаш Грыневіч прыходзіўся сваяком пісьменніку з боку маці. Мы наведалі яго магілу, якая знаходзіцца побач з праваслаўнымі могілкамі.

Пасля знаёмства з Рагачовам мы выправіліся ў Жлобінскі раён. Цікавыя ўражанні засталіся ад наведвання адной са старажытнейшых вёсак Беларусі — вёскі Стрэшын, якая згадваецца ў летапісах з 1123 года, і якую ўпрыгожвае Пакроўская царква, пабудаваная ў 1807 годзе. У пасёлку Красны Бераг Жлобінскага раёна мы наведалі адзін з самых прыгожых палацава-паркавых комплексаў Беларусі з замкам, архітэктура якога спалучае ў сабе рысы неаготыкі і неарэнесансу. Непадалёк ад гэтай мясціны знаходзіцца мемарыяльны комплекс, які быў створаны на месцы дзіцячага канцлагера, што існаваў тут у часы вайны.

У вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна ўражвае буйны палацавы ансамбль з прыгожым паркам, які прыцягвае сюды шмат турыстаў (зараз ён знаходзіцца на рэстаўрацыі). Фотаздымкі гэтых мясцін, як і раней даследаваных Цвірко, увойдуць у надрукаваныя з цягам часу даведнікі.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 855

Падпісана да друку 02.09.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.